

Я. Гашэк

# Швэйк за дзяншчыка ў фэльдкурата

БДВ

БІБЛІОТЭКА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА

ЯРАСЛАЎ ГАШЭК






# ШВЭЙК ЗА ДЗЯНШЧЫКА Ў ФЭЛЬДКУРАТА



Пераклад з расійскае мовы



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1931

## Швэйк за дзяншчыка ў фэльдкурата.

Ужо трэці дзень служыў Швэйк за дзяншчыка ў фэльдкурата [1]) Отто Каца, але бачыў яго праз гэты час усяго адзін раз. На трэці дзень зьявіўся дзяншчык паручніка Хэльміха з загадам, каб Швэйк прышоў і забраў свайго пана.

Дарогай ён паведаміў яму, што фэльдкурат паспрачаўся з паручнікам і пашчапаў піяніна: цяпер ён п'яны як пласт і ня хочаісьці дахаты.

Паручнік Хэльміх таксама п'яны і выпхнуў фэльдкурата на калідор, дзе той і сядзіць на падлозе пад яго дзьвярмі ды тухне.

Калі Швэйк зьявіўся на месца, ён раскатурхаў фэльдкурата, а калі той нешта буркнуў і троху расплюшчыў вочы, ён казырнуў і адрапартаваў:

— Маю гонар зьявіцца, пане фэльдкурат.

---

[1]) Фэльдкурат—палкавы ксёндз.

— А што вам тут трэба?

— Так што загадалі вас завесьці, пане фэльдкурат.

— Значыцца, вы мяне павінны завесьці... А куды-ж мы пойдзем?

— Да вас на кватэру, пане фэльдкурат.

— А навошта мне йсьці да сябе на кватэру? Жіба я не на сваёй кватэры?

— Ні ў якім разе, пане фэльдкурат, вы на калідоры ў чужым доме.

— А яааак я сю... сюды трапіў?

— Так точна, вы прыходзілі ў госьці.

— У госьці?.. У го-госьці... я... ня... прыхходзіў... Паммммыляецеся...

Швэйк падняў фэльдкурата і прыставіў яго да сьцяны. Фэльдкурата тузала з боку ў бок. Ён паваліўся на Швэйка і сказаў:

— Здаецца, я ввалюся. Вваллюся,—пераказаў ён і засьмяяўся дурным сьмехам.

Нарэшце, Швэйк патрапіў прыціснуць фэльдкурата да сьцяны, і той зноў зачаў быў дрымаць.

Швэйк узбудзіў яго.

— Што вам трэба?—праказаў фэльдкурат

з дарэмнай патугай спаўзьці па сьцяне і асесьці на дол.—Хто вы такі, уласна кажучы?

— Так што,—адказаў Швэйк, зноў як мага прыціскаючы да сьцяны фэльдкурата,—я ваш дзяншчык, пане фэльдкурат.

— У мяне няма дзяншчыка,—з патугай выгаварыў фэльдкурат, зноў спрабуючы ўзваліцца на Швэйка,—і я не фэльдкурат. Я сьвіньня!—дадаў ён з шчырасьцю п'янага чалавека. Пусьцеце мяне, вашэці, я з вамі незнаёмы.

Барацьба скончылася поўнай перамогаю Швэйка. Швэйк скарыстаў яе ў тым кірунку, што звалок фэльдкурата па сходах у вэстыбюль, дзе той зноў стаў упірацца, каб ня выходзіць на вуліцу.

— Я з вамі незнаёмы, вашэці,—бесьперастанку гаварыў ён Швэйку пад час барацьбы. Хіба вы знаеце такога—Отто Каца? Гэта я і ёсьць.

— Я быў у біскупа,—гвалтаваў ён ушчарэпіўшыся ў парадныя дзьверы.—Увесь Ватыкан цікавіцца мной, разумееце вы гэта?

Швэйк адкінуў розныя «так точна» ды «ні ў якім разе» ды «маю гонар» і загаварыў з фэльдкуратам чыста па-сяброўску.

— Кінь, я табе кажу,—крыкнуў ён,—а то дам я табе па хары... Хадзем дахаты, ды й па тым. Ані слова больш.

Фэльдкурат выпусьціў дзьверы і наваліўся на Швэйка.

— Добра, пойдзем куды-небудзь, але толькі да Шухі я не пайду, я там завінаваціўся.

Швэйк ці то выпхнуў ці то вывалак яго з вэстыбюлю і пацягнуў па тротуары ў той бок, дзе быў яго дом.

— Што гэта за пан?—спытаў нехта з гледачоў на вуліцы.

— Гэта мой брацяньнік,—адказаў Швэйк. Яго пусьцілі на пабыўку і ён прыехаў адведацца мяне, ну і набраўся з радасьці, бо ён ня думаў, што я ўжо памёр.

Фэльдкурат, які высьвістваў нейкую опэрэтачную мэлёдыю, якую ніхто-б не пазнаў, пачуў апошні сказ, выпраставўся і зьвярнуўся да падарожных з словамі:

— Хто з вас памёр, той няхай у трохдзенны тэрмін зьявіцца ў штаб корпусу за дазволам на адданьне ягонага цела зямлі па хрысьціянскаму абычаю.

Потым ён удаўся ў маўчаньне, адно лучыў, каб дзяўбануць носам у тротуар, тымчасам, як Швэйк валок яго пад пашкі дамоў.

Нахіліўшы галаву наперад і цягнучы ногі, якія ён блытаў, нібы кошка з перабітай хрыбцінай, фэльдкурат на паўголаса выводзіў „Dominus vobiscum“[1]).

Каля месца, дзе стаялі рамізьнікі, Швэйк пасадзіў фэльдкурата пад сьцяну і пашоў згадзіць рамізьніка, каб давёз яго пана дамоў.

Адзін рамізьнік заявіў, што гэтага пана ён добра знае, што ён яго неяк вазіў, ды й пракаяўся.

— Усю фурманку мне запаскудзіў, драўшы казлы,—шчыра апавядаў ён,—і нават не заплаціў за дарогу. Дзьве гадзіны я яго вазіў, пакуль ён, нарэшце, знайшоў, дзе ён жыве. І толькі праз тыдзень, пасьля таго, як я разы са тры да яго заходзіў, ён даў мне ўсяго за ўсё пяць крон.

Пасьля даўгіх перамаўленьняў адзін рамізьнік усё-ткі згадзіўся завезьці яго дадому.

Швэйк вярнуўся да фэльдкурата, які ўжо ўправіўся заснуць. Капялюш у яго (ён зазвычай

---

[1]) Госпад з вамі.



хадзіў у цывільным) нехта зьдзеў з галавы і панёс з сабой.

Швэйк раскатурхаў яго і з дапамогай рамізьніка пасадзіў на фурманку. Там фэльдкурат канчаткова самлеў і, улічаючы Швэйка за палкоўніка Юста, камандзіра 75-га пяхотнага палка, колькі разоў узапар пераказаў:

— Ня злуй, таварыш дарагі, што я табе кажу «ты», бо я-ж—сьвіньня.

Нейкі час здавалася, нібы ад трасеньня ў хурманцы ён троху ачулеў. Ён выпрастаўся і зачаў сьпяваць нейкую нікому невядомую песьню. Можа, гэта быў плод яго ўласнай фантазіі.

Але неўзабаве ён ізноў упаў у поўнае зьнясіленьне і, зьвяртаючыся да Швэйка, спытаў яго, падміргваючы адным зокам:

— Ну, як вы сёньня сябе адчуваеце, васпані?

— А куды вы едзеце сёлета на дачу?—запытаў ён па невялікай паўзе і, бачачы ўсё падвойна, паказаў пальцам на Швэйка.—Абач, у вас ужо дарослы сын?

— Сядзеш ты, нарэшце?—гукнуў на яго Швэйк, калі фэльдкурат надумаў быў узгла-

баццa з нагамі на сядзеньне.—Ня думай, што я ня здолею прывучыць цябе да парадку...

Фэльдкурат прыціх і маленькімі сьвінячымі вачмі стаў пазіраць з фурманкі, дрэнна ўсьведамляючы, што з ім дзеецца.

Ён пераблытаў усе разуменьні і, зьвяртаючыся да Швэйка, у замяшаньні сказаў яму:

— Адчынеце мне прыбіральню першае клясы, бабуля.

І разам з гэтым памкнуўся спусьціць штаны.

— Зараз-жа зашпіліся, чорт сьвінячы!— цыкнуў на яго Швэйк.

— Усе рамізьнікі цябе ўжо знаюць; аднаго разу ты ўжо абблюваў усю фурманку, а цяпер яшчэ гэта. І ня думай, што ты зноў здолееш не заплаціць, як тады...

Фэльдкурат мэлянхолічна ўзьлёгся галавой на рукі і запеў: «Ніхто мяне не кахае»... Але зараз-жа перапыніў свае сьпевы і праказаў:

— Даруйце, мой даражэнькі, вы—ёлуп! Я магу пець, што мне ўздумаецца.

Ён, відаць, хацеў высьвістваць нейкую мэлёдыю, але замест яе з вуснаў у яго сарвалася такое гучнае: «Тпррр», што фурманка спынілася.



Па Швэйкавай пропозыцыі яны зноў крануліся ў дарогу, і фэльдкурат пачаў запальваць свой бруштынавы муштук.

— Не гарыць,—праказаў ён у роспачы, зглуміўшы на гэтую справу цэлы карабок запалак.—Гэта вы мне ўсё гасіце.

Адылі ён зноў адразу згубіў нітку гутаркі і зачаў сьмяяцца.

— Во, пацеха. Мы зусім адны ў транваі. Ці праўда, колега?

Ён стаў капацца ў сваіх кішэнях і крыкнуў:

— Я згубіў свой білет. Стойце, стойце, я павінен знайсьці свой білет.

Потым пакорліва махануў рукой.

— Усё роўна, едзь...

Нарэшце, ён стаў лапатаць нешта зусім бязглуздае:

— У большасьці выпадкаў... Так, усё ў парадку... У кожным выпадку... Не, вы глыбока мыляецеся... На другім паверсе... Дайце веры, васпані, справа ідзе не пра мяне, а пра вас... Чалаэк, дайце рахунак... Я—ушчэнт...

У паўсьне ён пачаў спрачацца з нейкім уяўлёным супрацоўнікам, які нібы-та сьпіраўся за права сядзець у рэсторане ля вакна. Потым ён

зблытаў фурманку, у якой ехаў, з поездам, высунуўся з вакна і стаў крычаць па-нямецку і пачэску: «Німбург, перасядка!»

Швэйк уцягнуў яго назад, і фэльдкурат забыўся на поезд і стаў перадражніваць розную жывёлу. Больш за ўсё ён забаўляўся пеўнем, і яго «кукарэку» зычэла перамогай.

Колькі хвілін ён быў дужа жвавы і непакойны і намыкаўся выкінуцца з фурманкі, лаячы людзей, паўз якіх ім даводзілася праяжджаць, хуліганамі. Шпульнуў на брук сваю насоўку і стаў вымагаць, каб рамізьнік суняўся, бо ён згубіў свой багаж, потым стаў апавядаць:

— У Будвэйсе быў адзін барабаншчык... Ён ажаніўся... А праз год ён памёр... Хіба-ж гэта ня дужа добры анэкдот?

І рагатаў, як дуркаваты.

Праз увесь гэты час Швэйк абыходзіўся з фэльдкуратам з няўмольнай жорсткасьцю.

З прычыны розных спроб фэльдкурата вытварыць якую-небудзь штуку, накшталт таго, каб вываліцца з фурманкі, або паламаць сядзеньне, Швэйк раз-по-раз садзіў яму пад бакі, і фэльдкурат прымаў гэта з нязвычайнай пакорай.

Толькі адзін раз ён зрабіў патугу ўзбунта-

ваццa і выскачыць з фурманкі, заявіўшы, што ня хоча ехаць далей, бо ведаў, што замест Бурвэйса ён прыедзе ў Бодэнбах. У момант Швэйк ліквідаваў яго спробу і прымусіў яго сесьці на старое месца, стараючыся ня даць яму заснуць. Разам з гэтым ён ласкава і далікатна яго ўгаварваў:

— Глядзі, ня спаць у мяне, сьцерва!

У фэльдкурата раптам зноў зрабіўся прыпадак мэлянхоліі, і ён пачаў хліпаць, пытаючыся ў Швэйка, ці была ў яго маці.

— Я зусім адзінотны на белым сьвеце, браточкі!—хліпаў ён.—Пашкадуйце-ж мяне!

— Годзе, не скандаль, — угаварваў яго Швэйк, — сьціхні, а то ўсе скажуць, што ты п'яны.

— А я далібог-жа нічога ня піў, таварыш,— адказаў фэльдкурат,—я зусім цьвярозы.

Раптам ён устаў і казырнуў па-вайсковаму.

— Маю гонар далажыць, пане палкоўніку, я п'яны. Я сьвіньня!—падхапіў ён зараз-жа сьледам за гэтым з адчайнай, шчырай безнадзейнасьцю.

І, зьвяртаючыся да Швэйка, стаў настойліва прасіць і маліць:

— Выкіньце-ж мяне з аўтомобілю! Нашто вы бярыцё мяне з сабой?

Ён зноў сеў і замармытаў:

— Навокал месяцу ўтвараюцца колы... Ці верыце вы ў няўмірушчасьць душы, пане капітан? Ці можа конь трапіць у рай?

Ён пачаў быў зычна галёкаць, адылі раптам стаў сумны і млявы і пільна паглядзеў на Швэйка, зазначыўшы:

— Прабачайце, вашэці, я з вамі ўжо недзе сустракаўся. Ці ня бывалі вы ў Вене? Я памятаю вас яшчэ з сэмінарыі.

Здэклямаваўшы колькі ўрыўкаў лацінскіх вершаў, ён заявіў:

— А далей я ня ведаю, і таму выкіньце мяне вон! Ну, чаму вы ня хочаце мяне выкінуць вон, да д'ябла? Са мной нічога ня зробіцца, далібог.

— Мне хочацца хлюпнуцца носам у зямлю,— прызнаўся ён рашучым тонам.

— Ах, добры паночку,—мілосна стаў ён прасіць,—даражэнькі мой, дайце мне аплявуху.

— Адну ці дзьве?—запытаўся Швэйк.

— Дзьве!

— Калі ласка...

Фэльдкурат голасна лічыў аплявухі, якія даваў яму Швэйк, і быў бясконца здаволены.

— Эх, любата!—крыкнуў ён.—Гэта карысна для жывата, дапамагае страўнасьці. Дайце мне, калі ласка, яшчэ адзін раз поўху.

— Шчыра дзякую!—сказаў ён, калі Швэйк здаволіў яго хаценьне.—Сып да краю. Разьдзярэце мне яшчэ камізэльку, прашу вас.

Ён стаў выказваць самыя дзіўныя жаданьні. Так, ён захацеў, каб Швэйк адарваў яму нагу, задушыў яго, абгрызаў яму ногці і вырваў усе кірмашовыя зубы.

Ён выказваў ахвоту прыняць мучальніцтва і вымагаў, каб Швэйк адцяў яму галаву і кінуў яе ў торбе ў Малдаву.

— Мне дужа да твару быў-бы вянец з зорачак навакол галавы,—зазначыў ён у захапленьні.—Штук дзесяць я бадай узяў-бы.

Потым ён стаў гаварыць пра скачкі, але неўзабаве перайшоў на балет, на якім, аднак, тож ня доўга затрымаўся.

— Вы танцуеце чардаш?—запытаў ён Швэйка.—А танец медзьвядзёў? Во гэтак...

Ён хацеў быў падскочыць, але паваліўся на

Швэйка, які надаваў яму таўхянёў і паклаў на сядзеньне.

— Я нечага хочу,—загарлаў фэльдкурат,— але ня ведаю, чаго! Вы ня ведаеце, чаго я хочу?—Адылі, што мне за клопат, чаго я хочу,— дадаў ён сур'ёзна і лагодна пахіліў галаву.— А вам, вашэці, таксама да гэтага клопату мала. Я вас ня знаю. Якое вы маеце права гэтак нахабна глядзець на мяне? Вы ўмееце фэхтаваць?

На момант ён стаў дужа заўзяты і памкнуўся сьцягнуць Швэйка з сядзеньня.

Калі Швэйк яго ўціхамірыў, не пасароміўшыся выявіць сваю фізычную перавагу, фэльдкурат запытаўся:

— Што ў нас сёньня: панядзелак ці пятніца?

Яму карцела таксама высьветліць, ці сьнежань цяпер ці ліпень, і наогул ён паказаў вялікія здольнасьці ставіць самыя рознастайныя пытаньні.

— Вы жанаты? Ці любіце вы швэйцарскі сыр? А ў вас дома былі клапы? Што, у вашага сабакі была чума?

Ён удаўся ў шчырую таварыскасьць. Ён рас-

казаў, што за ботфорты, стэк і кульбаку ён астаўся вінаваты, што колькі год таму ў яго быў трыпер і што яго лячылі марганцава-кіслай сольлю.

— На што-небудзь іншае ня было ні часу, ні сродкаў.—ікаючы, паведаміў ён.—Можа гэта вы ўважаеце за крыўду? Але мяркуйце самі, што я мог зрабіць? Вы ўжо прабачайце. Тэрмосамі,—казаў ён далей, забыўшыся, пра што была весь толькі гутарка,—завуцца судны, у якіх яда ці піцьцё могуць захоўвацца з іхнай першапачатковай тэмпэратурай... А як вы ўважаеце, колега, якая гульня больш справядлівая: жалезка ці дваццаць адно? Як сабе хочаш, а я з табой недзе ўжо сустракаўся!—крыкнуў ён, пнучыся абняць Швэйка ды пацалаваць абсьлюмачанымі вуснамі.—Па мойму, мы разам хадзілі ў школу. Ах ты, добрая твая душа!—мякка гаварыў ён, гладзячы сваю ўласную нагу.—Як ты падрос з тэй пары, як мы ня бачыліся. Але цяпер радасьць нашае сустрэчы прымушае забыцца на ўсе мае пакуты.

У ім адкрылася поэтычная жылка, і ён стаў апяваць зварот шчасьліўцаў да сонечнага сьвятла і палкае каханьне.

Потым ён апусьціўся на калены і стаў маліц-
ца: Ave. Maria», рагочачы на ўсё горла.

Калі яны суняліся перад ягонай кватэрай, было дужа цяжка выцягнуць яго з фурманкі.

— Мы яшчэ ня прыехалі! гвалтаваў ён.—Ратуйце! Мяне хочуць скрасьці! Мне трэба ехаць далей!

Яго выкалупалі з фурманкі, як смаўжа з яго чарапашкі. З момант здавалася, быццам яго разьдзяруць на кавалкі, бо ён зачапіўся нагамі за сьпінку сядзеньня. Але потым ён гучна зарагатаў, што яму ўдалося іх ашукаць.

Яго перацягнулі па вэстыбюлі і сходах у кватэру і паваліл яго там, як куль, на канапу. Ён заявіў, што плаціць за аўтомобіль ня будзе, бо ня ён яго згадзіў, і больш за чвэртку гадзіны прышлося даводзіць яму, што гэта быў просты рамізьнік.

Але і тут ён ня даў свае згоды і ўсё спрачаўся, што езьдзіць толькі на фіакрах.

— Вы хочаце мяне абдурыць, — гаварыў фэльдкурат, многазначна падміргваючы Швэйку й рамізьніку.—Мы-ж ішлі пеша.

І раптам, у прыпадку шляхетнасьці, ён кінуў рамізьніку свой портманэт.

— Вось, бяры сабе ўсё. Я магу гэтулькі заплаціць. На адзін крэйцар больш ці менш—мне начхаць.

Правільней было-б сказаць, што яму начхаць на трыццаць шэсьць крэйцараў, бо больш у портманэце і ня было. На шчасьце рамізьнік зрабіў яму строгуюператруску, ня сьціхаючы памінаць пра нейкія аплявухі і поўхі.

— Ну, дык і дай мне аплявуху,—праказаў фэльдкурат. Няўжо-ж ты думаеш, што я ад яе перакулюся? Ды я пяць штук вытрымаю, і ня міргну.

У фэльдкуратавай камізэльцы рамізьнік знайшоў пяцікронавую манету. Ён пайшоў, наракаючы на сваю долю і на фэльдкурата за тое, што той яго затрымаў і ня даў яму як мае быць зарабіць.

Фэльдкурат ледзьве-ледзьве заснуў, бо бесьперастанку строіў нейкія пляны. Ён ладзіўся брацца за самыя рознастайныя рэчы: іграць на роялі, хадзіць у танцклясу і навучыцца смажыць рыбу.

Потым ён дэкляраваў Швэйку, што ажэніць яго з сваёй сястрой, якой у яго зусім і ня было, і пажадаў, каб Швэйк занёс яго на пасьцель.

Нарэшце, ён заснуў са словамі, што ён патрабуе, каб яго улічылі за чалавека, які мае аднакавую вартасьць з сьвіньнёй.

*
* *

Калі назаўтрага ўраньні Швэйк увайшоў у пакой да фэльдкурата, той ляжаў на канапе і натужана разважаў аб тым, як магло здарыцца, каб яго так дзіўна аблілі, што ён прыліп штанамі да скураной канапы.

— Маю гонар далажыць, пане фэльдкурат,—растлумачыў Швэйк,—што вы ўначы...

Колькі слоў высьветлілі фэльдкурату, як глыбока ён памыляўся, думаючы, што яго нехта абліў.

Прачнуўшыся з надзвычай цяжкой галавой, фэльдкурат быў у панурым настроі.

— Ніяк ня ўспомню,—сказаў ён,—якім парадкам я трапіў з ложка на канапу?

— Вы там зусім і ня былі. Ці толькі мы прыехалі, адразу паклалі вас на канапу, бо далей у мяне не хапіла сілы.

— А што я нарабіў? Можа я чым напракудзіў? Ці ня быў я п'яны?

— Ушчэнт,—адказаў Швэйк,—як пласт, пане

фэльдкурат, у друзачкі. Можа-б вы перапрануліся ды памыліся?

— У мяне такое пачуваньне, быццам мяне зьбілі,—жаліўся фэльдкурат,—ды яшчэ смага... Ці ня біўся я ўчора?

— Да гэтага не даходзіла, пане фэльдкурат. А смага—гэта вынік смагі ўчорашняе. Ад яе ня надта лёгка пазбыцца. Я знаў аднаго сталяра, дык ён у першы раз напіўся трыццаць першага сьнежня тысяча дзевяцьсот дзесятага году, а першага студзеня тысяча дзевяцьсот адзінаццатага году ў яго зранку была такая смага й пахмельле, што ён купіў гарэлкі ды селядзец і зноў напіўся, і робіць гэта штодня ўжо больш, як чатыры гады. І ніхто яму рады ня дасьць, бо ён па суботах купляе сабе селядцоў на цэлы тыдзень. Гэта ўжо такі калаўрот, як часам казаў у нас адзін фэльдфэбэль у дзевяцьдзесят першым палку.

Фэльдкурат быў да краю прыгнечаны цяжкім пахмельлем. Каб хто пачуў тады яго разважаньні, дык-бы падумаў, што трапіў на лекцыю доктара Аляксандра Батэка: «Распачнём вайну не на жыцьцё, а на сьмерць з д'яблам алькоголя, які адбірае ў нас лепшых людзей»—а хоць

узяўся чытаць ягоную кніжку «іскры этыкі», праўда, з некаторымі зьменамі.

— Я разумею,—разважаў фэльдкурат,—калі чалавек п'е якія-небудзь людзкія трункі, як, скажам, арак, мараскін ці каньяк, а гэта-ж учора я піў яленцавую гарэлку. Дзіўлюся, як я здолеў яе піць. Брыдкі трунак. Хай-бы гэта была, прынамсі, вішнёўка. Вымудраць людзі розную гідасьць ды п'юць яе, як ваду. У гэтае, яленцавае ані смаку, ані колеру, адно горла дзярэ. Хай-бы гэта, скажам, была сапраўдная яленцавая настойка, якую я аднойчы піў у Маравіі. А ўчорашняя яленцавая была на нейкім дрэўным сьпірытусе ці мо на дрэўным алеі... Бачыце, як адрыгаецца?.. Гарэлка, гэта—атрута,—павёў ён на другое.—Яна павінна быць сапраўдная, арыгінальная, а не згатаваная халодным спосабам яўрэямі. У гэтым сэнсе з гарэлкай тое самае, што і з ромам, а добры ром—рэдкая рэч. Каб была пад рукой сапраўдная арэхавая настойка, яна-б мне папраўіла жывот. Такая арэхавая настойка, як у капітана Шнабэля ў Брусцы.

Ён пачаў поркацца ў портманэце.

— У мяне ўсяго па ўсім трыццаць шэсьць крэйцараў. Што, калі прадаць канапу...—разва-

жаў ён.—Як вы ўважаеце, Швэйк? Купіць хто-небудзь? Гаспадару я скажу, што пазычыў каму ці што яе ўкралі. Ці можа не, канапу я пакіну, а пашлю-тку я вас да пана капітана Шнабэля, хай ён мне пазычыць сто крон. Ён надоечы выйграў у карты. Калі там нічога ня выйдзе, дык вы пойдзеце ў Вршовіцы, у кашары да паручніка Малера. Калі і там не пашэнціць, дык вы падайцеся ў Градчаны да капітана Фішэра. Яму вы скажэце, што мне канцом патрэбна плаціць за фураж для каня (якога я прапіў). А калі і там у вас ня выйдзе, заставім рояль. Хай будзе, што будзе. Я вам напішу колькі слоў на ўсіх. Кажэце ўсім, што пільна трэба, што я сяджу без капейкі. Наогул, выдумляйце што-хоця, адно з пустымі рукамі не варочайцеся, а то пашлю на фронт. Ды спытайцеся за адным заходам у капітана Шнабэля, дзе ён купляе гэту арэхавую настойку, ды купеце дзьве пляшкі.

Заданьне гэта Швэйк справіў з надзвычайнай удачай. Яго прастадушнасьць і шчырае аблічча абуджалі поўную даверлівасьць да ўсяго таго, што ён казаў. Швэйк улічыў за патрэбнае ўмацаваць фэльдкуратаву просьбу і перад капітанам Шнабэлем, і перад капітанам Фішэрам, і перад

паручнікам Малерам ня толькі тым, што фэльдкурату трэба плаціць за фураж, а яшчэ й тым, што ён канечна павінен плаціць алімэнты.

Грошы ён дастаў усюды.

Калі ён вярнуўся з экспэдыцыі і паказаў фэльдкурату, які ўжо памыўся і перапрануўся, трыста крон, той асалапеў ад зьдзіўленьня.

— Я ўзяў усе адразу,—сказаў Швэйк,—каб нам не давялося заўтра ці пазаўтраму зноў рупіцца пра грошы. Усё ішло досыць гладка, але перад панам капітанам Шнабэлем мне выпала ўсё-ткі ўкленчыць. Сьцерва якая! Аднак, калі я сказаў яму, што вам канечна патрэбна плаціць алімэнты...

— Алімэнты?—спалохана перапытаў фэльдкурат.

— Ну вядома, алімэнты, пане фэльдкурат, адступныя дзяўчатам. Вы-ж мне сказалі, каб я што-небудзь выдумаў, а нічога іншага мне ня прышло на думку. У нас адзін шавец плаціў алімэнты пяцём дзяўчатам адразу. Ён проста вар'яцеў, і таксама пазычаў на гэта грошы. Дык кожны спагадаў. Пыталіся ў мяне, што за дзяўчынка, дык я сказаў, што вельмі прыгожанькая,

што ёй няма яшчэ пятнаццаці год. Пыталіся адрас.

— Спрытна абарудвалі вы гэтую справу, няма чаго казаць!—вохнуў фэльдкурат, схапіўшыся за галаву, і засігаў па пакоі.— Які сорам. А тут яшчэ галаву ломіць.

— Я ім даў адрас аднэй глухой бабулі на нашай вуліцы,—растлумачыў Швэйк.—Я хацеў абрабіць гэту справу як мае быць: загадалі, значыць—спаўняй. Да рэчы, там у пярэднім пакоі прышлі па рояль. Я іх прывёў, каб яны завезьлі рояль у лёмбард, пане фэльдкурат. Гэта не пашкодзіць, калі прыбяруць рояль. І павальнее ў хаце, і грошай у нас з вамі будзе больш—прынамсі на нейкі час будзем забясьпечаны. А калі гаспадар будзе пытацца, што мы хочам зрабіць з роялем, я скажу, што ў ім парваліся струны, і што мы яго адпраўляем правіць на фабрыку. Швэйцарысе я так і сказаў, каб яе ня дзівіла, што будуць выносіць рояль і класьці на воз. У мяне ўжо і на канапу ёсьць купец. Адзін знаёмы—мэбляй гандлюе. Па абедзе зойдзецца. Цяпер на скураныя канапы цана добрая.

— А больш вы нічога не нарабілі, Швэйк—у

роспачы запытаў фэльдкурат, не пакідаючы трымацца за галаву.

— Маю гонар далажыць, пане фэльдкурат, я прынёс замест дзьвюх пляшак арэхавае настойкі, той самай, што купляе пан капітан Шнабэль, пяць, каб у нас завёўся сякі-такі запас... З роялем можна выпраўляцца? А то, каб не зачынілі лёмбард...

Фэльдкурат махнуў безнадзейна рукой, і праз пяць хвілін рояль ужо ўскладалі на воз.

Як Швэйк вярнуўся з лёмбарду, фэльдкурат сядзеў перад адкуркаванай пляшкай арэхавае настойкі і лаяўся, што на полудзень яму далі недасмажаны шніцэль. Фэльдкурат быў зноў «у гумары». Ён заявіў Швэйку, што ад заўтрашняга пачынае новае жыцьцё, бо піць гарэлку— гэта агідны матэрыялізм, а яму належыць жыць духоўным жыцьцём.

Ён філёзофаваў блізка з паўгадзіны. Як адкаркавалі трэцюю пляшку, прышоў гандляр старой мэблі, і фэльдкурат прадаў яму канапу за нікчэмную цану, ды яшчэ ўгаворваў гандляра астацца пагутарыць з ім і быў дужа нездаволены, калі гандляр адмовіўся тым, што ідзе яшчэ паглядзець начны столік.

— Шкода, што ў мяне гэтага няма!—з жалем сказаў фэльдкурат.—Чалавеку цяжка пра ўсё загадзя паклапаціцца.

Пасьля таго, як пайшоў гандляр старой мэблі, фэльдкурат завёў гутарку са Швэйкам, з якім і расьпіў наступную пляшку. Частка гутаркі была прысьвечана асабістым поглядам фэльдкурата на жанчын і на карты. Сядзелі доўга. І вечар засьпеў Швэйка ў сяброўскай гутарцы з фэльдкуратам.

Адылі пад ноч адносіны зьмяніліся. Фэльдкурат вярнуўся да свайго ўчарашняга стану, пераблытаў Швэйка з нейкім іншым і казаў яму:

— Толькі ня йдзеце. Памятайце таго рыжага юнкера з абозу?

Гэта ідылія цягнулася датуль, пакуль Швэйк не сказаў фэльдкурату.

— Ну, годзе! Лезь у пасьцель і тухні. Чуеш?

— Лезу, любы, лезу... Чаму-ж ня лезьці?— мармытаў фэльдкурат.—Памятаеш, як мы разам хадзілі ў школу, і я за цябе выконваў заданьні па-грэцкаму? У вас дача, здаецца, у Збраславе? Вам можна ехаць туды на параходзе па Влтаве? Ведаеце, што гэта—Влтава?

Швэйк прымусіў яго зьдзець чаравікі і рас-

пранууца. Фэльдкурат слухаўся, але протэставаў перад нявіднымі слухачамі:

— Вось маеце, панове,—зьвярнуўся ён да шафы і фікуса,—як са мной абыходзяцца мае сваякі!—Ня вызнаю ніякіх сваякоў!—разьлютаваўся ён, калі Швэйк клаў яго на ложак.—Хай паўстане супроць мяне зямля і неба, я й тады зракуся іх.

І ў пакоі разьлёгся фэльдкуратаў хропат.

*
* *

На гэту самую пару прыпадае і Швэйкава візыта на сваю былую кватэру да свае старое служкі пані Мюлер. Швэйк засьпеў у хаце толькі стрэчную пані Мюлер, якая, плачучы, паведаміла яму, што пані Мюлер арыштавалі ў той самы вечар, як завезьлі Швэйка на вайсковы набор. Старую судзіў ваенны суд, і дзеля таго, што не знайшлі ніякае віны, яе завезьлі ў концэнтрацыйны лягер у Штэйнгоф. Ад яе быў ужо ліст. Швэйк узяў гэтую сямейную рэліквію і прачытаў:

«Любая Ганначка!

Нам тут дужа добра, і ўсе мы здаровы. У мае суседкі па ложку сыпны,—а ёсьць і

чорная.—Зрэшты ўсё добра. Яды ў нас досыць, і мы зьбіраем на суп бульбяную.— Чула я, што пан Швэйк ужо,—дык ты якнебудзь даведайся, дзе ён ляжыць, каб па канцы вайны мы маглі прыбраць яго могілку. Забылася табе сказаць, што на гары ў цёмным кутку, у скрынцы асталося шчанё фокстэр'ер. Вось ужо некалькі тыдняў, як яго не кармілі, з тэй самай пары, як прышлі па мяне.—Я думаю, што ўжо позна, і што сабачка таксама».—

Праз увесь ліст была чырвоная пячатка:

«Прагледжана цанзурай Імп. Кар. Концэнтрацыйны лягер, Штэйнгоф».

— І сапраўды, сабачка быў ужо няжывы!— хліпала стрэчная сястра пані Мюлер.—А пакой свой вы-б цяпер і не пазналі. Там цяпер жывуць швачкі. Яны зрабілі там дамскі салён. На сьценах скрозь моды, і кветкі на вокнах.

Стрэчная сястра пані Мюлер не магла ніяк супакоіцца. Пасьля доўгага хліпаньня і жалабы, яна зрэшты затурбавалася, ці ня ўцёк Швэйк з вайсковае службы ды мо' хоча цяпер і на яе наклікаць бяду, загубіць яе. І яна пачала абы-

ходзіцца з ім, як з самым заўзятым авантурыстым.

Швэйк зарагатаў.

— Пацеха! Гэта мне надта падабаецца. Во што, пані Кэйр, вы маеце рацыю, я ўцёк. Але для гэтага мне давялося забіць пятнаццаць вахмістраў і фэльдфэбэляў. Толькі вы анікому пра гэта не кажэце.

І Швэйк вышаў з свае ўласнае кватэры, якая была да яго такая негасьцінная, аддаўшы папярэдне загад:

— Пані Кэйр, у мяне ў пральні каўняркі і манішкі, дык вы іх захавайце для мяне, каб, вярнуўшыся з вайсковае службы, я меў ува што апрануцца. А таксама прасачэце, каб у маёй шафе з адзежай не завялася моль. А тым паненкам, што сьпяць на маім ложку, шчырае прывітаньне...

Швэйк зазірнуў таксама і ў шынок «Каля чары». Убачыўшы яго, Паліўцова жонка заявіла, што не нальле яму піва, бо ён, напэўна, дэзэртыр.

— Мой чалавек,—завяла яна старую гісторыю,—быў такі асьцярожны,—і сядзіць, небарака, нямаведама за што. А гэткія людзі ходзяць

па волі ды яшчэ ўцякаюць з вайсковае службы. Пра вас ужо на тым тыдні зноў пыталіся... Мы сьцеражлівейшыя за вас,—скончыла яна сваю прамову,—ды й нажылі ўсё-такі бяду. Ці ўсім-жа гэтак шанцуе, як вам.

Сьведкай гэтае гутаркі быў паджылы чалавек; сьлесар са Сьміхава. Ён падышоў да Швэйка і сказаў:

— Будзьце ласкавы, пачакайце мяне на вуліцы, мне трэба з вамі пагутарыць.

На вуліцы ён разгаманіўся з Швэйкам, улічаючы яго паводле шынкарчынае рэкомэндацыі за дэзэртыра. Ён паведаміў Швэйку, што ў яго ёсьць сын, які таксама ўцёк з вайсковае службы і цяпер перабывае ў бабулькі, у Ясені каля Іозэфова. Не зважаючы на Швэйкавы ўгаворы, што ён зусім не дэзэртыр, сьлесар уціснуў яму ў руку дзесяць крон.

— Гэта вам на першы абыход знадабіцца,— сказаў ён, цягнучы Швэйка за сабой у віньніцу на рагу,—я вам цалкам спачуваю, і мяне вам няма чаго баяцца.

Швэйк вярнуўся дахаты позна ўначы. Фэльдкурата яшчэ ня было дома. Ён прышоў толькі пад раньне, узбудзіў Швэйка і сказаў:

— Заўтра паедзем адпраўляць палявую імшу. Заварыце чорнае кавы з ромам... Ці мо', яшчэ лепш, згатуйце грог.

## Швэйк з фэльдкуратам едуць адпраўляць палявую імшу.

Падрыхтоўка да выпраўленьня людзей на той сьвет чынілася заўсёды імем бога ці іншае найвышэйшае істоты, створанае людзкай фантазіяй. Старажытныя фінікійцы перш, чымся перарэзаць палоннаму горла, адпраўлялі ўрачыстае набажэнства, акурат так, як рабілі гэта праз колькі тысячагодзьдзяў нашыя сучасьнікі, перад тым, як ісьці агнём і мячом на супраціўніка. Людаеды на Гвінэйскіх выспах перад урачыстым зьядзеньнем ваеннапалонных або людзей ні навошта ня вартых, як напрыклад: місіянэраў, вандроўнікаў, комівуяжэраў розных фірм і проста цікавых, рабілі ахвяры сваім багом, выконваючы розныя рэлігійныя цырамоніі. Адылі затым, што да іх не дасягнула яшчэ культура папоўскіх рыз, яны ў гэткіх урачыстых выпадках аздабляюць свае зады яскравым птушыным пер'ем. Сьвятая інквізіцыя, якая паліла свае няшчасныя ахвяры, папярэдне адпраўляла ўрачыстае набажэнства.

Калі караюць сьмерцю, заўсёды асыстэнтам бывае поп і сваёй прысутнасьцю гняце асуджанага: у Прусіі падводзіў пад сякеру няшчаснага асуджанага пастар; каталіцкі ксёндз выконваў тую самую ролю ў Аўстрыі пад шыбеніцай, а ў Францыі—пад гільётынай, поп пасабляў асуджанаму сесьці на электрычнае крэсла ў Амэрыцы, а ў Гішпаніі—на крэсла з хітрай прыладай да задушэньня; рэволюцыянэраў у Расіі праводзіў на сьмяротную кару барадаты поп, і г. д. І ўсюды божыя служкі праводзілі іх з укрыжаваным хрыстом у руцэ, нібы казалі: «Табе, галубок, усяго па ўсім адсякуць галаву, або цябе, даражэнькі, толькі засіляць, задушаць, ці пусьцяць у цябе пятнаццаць тысяч вольт,—але што гэта значыць, калі параўнаць з тым, што давялося зазнаць ісусу хрысту!»

Вялікая розьніца—сусьветная вайна таксама не абыходзілася без папоўскага блаславеньня. Палкавыя папы ўва ўсіх арміях маліліся ды правілі набажэнствы за перамогу тых, чый елі хлеб. Як каралі сьмерцю салдат у аўстрыйскім войску, зьяўляўся ксёндз, не абыходзілася без яго й тады, як каралі чэскіх легіянэраў.

Нічога не адмянілася з тэй пары, як разбойнік

Войцех, якога празвалі «сьвяты», зьнішчаў падбальтыцкіх славян з мячом у аднэй руцэ і з крыжам—у другой.

Забойцы—цары, каралі ды іншыя ўладары—зганялі, як быдла ў разьніцу, свае народы з усяе Эўропы. Плячо ў плячо з уладарамі ішлі папы ўсіх вызнаньняў, пасылаючы народам блаславеньне і падводзячы іх да прымусовае, што страціла свой сэнс, прысягі, якая агалашала, што «на сушы, на моры, у паветры» і г. д.

Палявая імша зазвычай адпраўлялася двойчы: як выяжджалі на позыцыі і на фронце, напярэдадні крывавае бойні.

Памятаю, аднаго разу пад час палявой імшы на позыцыях варожы самалёт скінуў над намі бомбу. Бомба лучыла акурат у паходны алтар, і ад нашага палкавога ксяндза высталіся толькі акрываўленыя шмоткі. Усе газэты пісалі пра яго, як пра мучальніка, а тым часам нашыя самалёты стараліся гэткім самым спосабам уславіць папоў у стане супраціўніка.

Ну, і сьмеху было ў нас з гэтым ксяндзом-няўдаліцай. На часовым крыжы, пад якім пахавана было ўсё, што засталося ад фэльдкурата, назаўтрага ўраньні зьявілася гэткая эпітафія:

Што нам прысьці магло—табе яно прыпала.
Ты абяцаў нам неба, а яно
Табе на плеш сышло сьвятой навалай,
З цябе зрабіўшы месіва адно.

* * *

Швэйк згатаваў знатны грог—грог куды лепшы за грогі старых маракоў. Гэтага грогу з ахвотай пакаштавалі-б і піраты восемнаццатага стагодзьдзя.

Фэльдкурат Отто Кац быў у захапленьні.

— Дзе гэта вы навучыліся варыць гэткую дзівосную штуку?—запытаўся ён.

— Яшчэ ў тыя гады, як я бадзяўся ў Брэмэне,—адказаў Швэйк,—навучыў мяне гэта рабіць адзін прапойца—матрос, які заўсёды гаварыў, што грог павінен быць такі моцны, каб матрос, скінуўшыся пасьля яго ў мора, пераплыў увесь Ля-Манш. А ад слабога грогу захлынешся, як шчанё.

— Пасьля такога грогу, Швэйк, правіць палявую імшу—адна асалода!—разважаў фэльдкурат.—Я мяркую перад імшой сказаць колькі слоў на дарогу. Палявая імша—ня жартачкі. Гэта ня тое, што адчыкрыжыць імшу ў гарні-

зоннай турме ці прачытаць казаньне арыштантам. Палявую імшу правіць абы-як няможна. Паходны складаны ці, як той казаў, кішэнны алтар у нас ёсьць... Езус Марыя!—схапіўся за галаву фэльдкурат.—Авой дурніцы, авой ёлупы! Ці ведаеце вы, дзе схаваў я паходны алтар? У канапе, якую мы прадалі.

— Бяда!—сказаў Швэйк.—Праўда, я з гэтым гандляром старой мэблі знаёмы, але надовечы я сустрэў ягоную дружыну, дык яна мне сказала, што ён сядзіць за крадзеную скрынку, а што канапа наша знаходзіцца ў аднаго настаўніка ў Вршовіцах. З алтаром значыць,—чыстае гора. Найлепшае, што мы можам зрабіць, гэта дапіць грог і падацца на пошукі, бо без алтара, мабыць, правіць імшу ня надта ёмка.

— Адно паходнага алтара й бракуе,—заклапочана сказаў фэльдкурат. Усё іншае ўжо нарыхтавана на вучэбным пляцы. Цесьляры ўжо зьбілі памост. Дарахранільніцу нам пазычуць у Бржэўнове. Чаша ў мяне павінна быць свая, але дзе яна дзелася?..

Ён задумаўся.

— Ну, хай сабе—я яе загубіў. Дык у такім разе пазычым прызавы кубак у паручніка сем-

дзесят пятага палка Вітынгера. Колькі год таму назад ён прымаў удзел ад клюбу «Спорт» у спаборніцтве на бягню і выйграў гэты кубак. Добры быў бягун. Адлегласьць Вена—Мэндлінг узяў за гадзіну і сорак восем хвілін. Ён да гэтага часу яшчэ выхваляецца гэтым. Я з ім на кожны выпадак яшчэ ўчора пра гэта дамовіўся... І як гэта я, даўбешка, не паглядзеў у канапу, калі яе прадаваў? Заўсёды я, скаціна, адкладаю ўсё на апошнюю хвіліну.

І пад уплывам выпітага грогу, згатаванага па рэцэпту прапойцы матроса, фэльдкурат узяўся лаяць сябе найспрытнейшымі выразамі, даючы ведама, што, уласна, ён з сябе выяўляе.

— Час ісьці шукаць паходны алтар,—заявіў Швэйк.—Ужо днее. Трэба толькі раней напрануць мундзір ды выпіць на дарогу яшчэ шкляначку грогу.

Нарэшце, яны вышлі. Ідучы да жонкі гандляра старой мэбляй фэльдкурат апавядаў Швэйку, што ён учора выйграў у карты, і калі яму пашанцуе, дык ён выкупіць з лёмбарду рояль. Гэтае абяцаньне нагадвала абяцаньне дзікуна зрабіць ахвяру свайму богу, калі паляваньне будзе ўдалае.

Ад заспанае жонкі гандляра старой мэбляй фэльдкурат і Швэйк даведаліся, які адрас настаўніка з Вршовіц, што заўладаў іхнай канапай. Фэльдкурат паказаў нязвычайную далікатнасьць: ушчыкнуў гандлярову жонку за шчаку і паласкатаў яе пад барадою.

Фэльдкурат і Швэйк ішлі да самых Вршовіц пеша, бо фэльдкурат заявіў, што яму трэба прайсьціся падыхаць сьвежым паветрам, каб прасьвяжыцца.

У Вршовіцах, на кватэры ў настаўніка, старога набожнага чалавека, іх напаткала прыкрая неспадзяванка. Калі стары, купіўшы канапу, знайшоў у ёй паходны алтар, ён падумаў, што гэта боскае цуда і падараваў алтар Вршовіцкаму касьцёлу ў рызьніцу, выразаўшы на тыльнай старане алтара надпіс:

«Дар на хвалу госпада бога настаўніка Коладжыка ў лета ад нараджэньня хрыстовага 1914».

Настаўнік, якога засьпелі ў аднэй бялізьне, зусім зьбянтэжыўся. З гутаркі з ім высьветлілася, што ён сваёй знойдзе надаваў значнасьць цуда і бачыў у ёй боскі промысел. Як купіў ён канапу, нейкі нутраны голас яму праказаў:

«Зірні, ці няма чаго ў шуфлядзе ў канапе?» А ўва сьне зьявіўся да яго анёл і загадаў яму: «Адчыні шуфляду ў канапе?» Настаўнік паслухаўся. І калі ён убачыў там мініятурны складаны алтар з нішай для дарахранільніцы, ён укленчыў перад канапай і доўга горача маліўся, услаўляючы бога. Настаўнік бачыў у гэтым найвышэйшае прызначэньне і ахвяраваўся аздобіць гэтым алтаром Вршовіцкі касьцёл.

— Гэта нас мала абыходзіць,—заявіў фэльдкурат. Рэч, якая вам не належала, вы павінны былі аддаць у паліцыю, а ня ў нейкую праклятую рызьніцу.

— Каб часам вы з гэтым цудам ня прыдбалі якіх няпрыемнасьцяй,—дадаў Швэйк.—Вы купілі толькі канапу, але ні ў якім разе не алтар, які ёсьць вайсковая маемасьць. Гэты промысел можа дорага вам каштаваць. Няма чаго было вам зважаць на анёлаў. Адзін мой зямляк з Згоржа часам гэтак сама араў дый знайшоў на ральлі чашу для прычасьця, якую нейкі бязбожнік украў і закапаў да лепшага часу ў зямлю, пакуль не забудуцца на крадзеж. Зямляк мой таксама ўбачыў тут боскі промысел і замест таго, каб пераплавіць чашу, панёс яе да ксяндза, мяркуючы,

як ён казаў, ахвяраваць на касьцёл. А ксёндз, думаючы, што сьвятакрадца прыцягнулі да яго душэўныя згрызоты, паслаў па старасту, а стараста па жандараў, і селянін быў бязьвінна асуджаны за сьвятакрадзтва, бо ён на судзе праз увесь час тлуміў пра цуда. Зямляк хацеў абязьвініцца і ўсё апавядаў пра нейкага анёла, уляпіў туды і матку-боску, а канцы канцамі—запёрлі яго на дзесяць год. Лепш за ўсё, калі вы пойдзеце з намі да тутэйшага ксяндза і пасобіце нам дастаць назад скарбовую маемасьць. Паляны паходны алтар—гэта вам ня кот і не анучка, якую каму-хацця можаш падараваць.

Стары, апранаючыся, калаціўся ўсім целам. У яго зуб на зуб ня лучыў.

—Далі-бог, у мяне нічога благога ня было і ў падумцы. Я думаў, што гэтым боскім дарам здолею дапамагчы аздабленьню нашага беднага храма маткі-боскай на Вршовіцах.

— Разумеецца, за скарбовы кошт?—перапыніў яго Швэйк.—Шчыра дзякую за гэткі боскі дар. Адзін такі Півонька з Хатэбэржы неяк таксама ўлічыў быў за боскі дар чужую вяроўку разам з чужой каровай...

Няшчасны дзед ад гэткіх параўнаньняў

зьбянтэжыўся і зусім перастаў абараняцца, сьпяшаючыся апрануцца і як найхутчэй скончыць гэтую справу.

Вршовіцкі ксёндз яшчэ спаў і, калі яго разбудзілі, грукаючы ў дзьверы, ён пачаў лаяцца, бо спрасоньня падумаў, што яго клічуць на парахвію.

— Дыхнуць не дадуць з гэтымі трэбамі!— бурчэў ён, неахвотна апранаючыся.—Прысьпела ім канечна памерці акурат у той момант, як самы сон у чалавека, а пасьля таргуйся з імі, каб заплацілі.

У пярэднім пакоі адбылася сустрэча паміж прадстаўніком бога сярод Вршовіцкіх парахвіян і прадстаўніком бога пры ваенным ведамстве. Па праўдзе казаць, гэта была спрэчка цывільнага з вайсковым. У той час, як цывільны ксёндз намагаўся на тое, што паходнаму алтару ня месца ў канапе, вайсковы ксёндз супярэчыў, што яму і пагатове ня месца з канапы трапіць у рызьніцу касьцёла, які наведваюць адны цывільныя.

Швэйк устаўляў у гутарку розныя заўвагі накшталт таго, што лёгка ўзбагачваць бедны касьцёл за скарбовы кошт. На слове «бедны» ён рабіў адумыслова-гіронічны націск.

Нарэшце, яны пайшлі ў рызьніцу і ксёндз вы-

даў фэльдкурату паходны алтар пад расьпіску гэтага зьместу:

«Атрымаў паходны алтар, які выпадкова трапіў у храм, што на Вршовіцах.

Фэльдкурат Отто Кац».

Славуты паходны алтар быў зроблены венскай яўрэйскай фірмай Морыц Малер, што выраб-ляла ўсякія прадметы рэлігійных патрэб, як прыкладам: ружанцы, абразкі сьвятых ды інш. Алтар складаўся з трох частак і быў пакрыты фальшывай пазалотай, як і ўся слава сьвятой царквы. Ня было ніякай магчымасьці, ня маючы палкай фантазіі, вырашыць, што ўласна выяў-ляюць з сябе абразы на гэтых трох частках. Адно было ясна, што гэты алтар маглі з роўнай удачай скарыстаць паганцы з Замбезі і бурацкія ці мангольскія шаманы. Намалёваны яскравымі фарбамі алтар гэты здалёку выдаваў каляровай табліцай для выпрабаваньня чыгуначнікаў, ці ня хворыя яны на дальтанізм.

Найясьней вылучалася фігура нейкага голага чалавека са зьзяньнем вакол галавы і з пазеля-нелым, нібы пратухлы гусіны агузак, целам. Хоць гэтаму сьвятому ніхто нічога дрэннага не зрабіў, а, наадварот—з абодвух бакоў у яго

стаялі два крыластыя стварэньні, што меліся выяўляць анёлаў, але на гледача карціна рабіла ўражаньне, што голы сьвяты крычыць гвалту ад страху перад кампаніяй, якая яго абкружае: анёлы нагадвалі казачных дзіваў, нешта сярэдняе—ні то дзікіх катоў, ні то апокаліпсычных страшыдлаў.

На другой частцы быў абраз, які павінен быў паказваць тройцу. Галуба, шчыра кажучы, мастаку не асабліва ўдалося сапсаваць. Ён намаляваў сапраўды нейкую птушку, якая роўна падобная была як да голуба, так і да белае курапаткі. Затое бог-айцец быў падобны да разбойніка з дзікага Захаду, якімі частуюць захопленую публіку амэрыканскія фільмы з жыцьця прэрый. Бог-сын, наадварот, быў намаляваны ў выглядзе вясёлага кавалера з ладным чэраўцам, схаваным у нешта падобнае да трусікаў. Наогул ён нагадваў спортсмэна: крыж ён трымаў у руцэ так лёгка і шыкоўна, нібы гэта была тэнісная ракетка. Здалёку ўся тройца расплывалася, і ўражаньне было такое, якое робіць поезд, пад'яжджаючы да станцыі.

Што да трэцяе іконы, дык зусім ня можна было ўцяміць, што яна паказвае. Салдаты пад

час імшы памыкаліся разгадаць гэты рэбус. Нехта нават пазнаў на іконе сваю зямлячку з Прысазаўскага краю. Адылі пад гэтым абразом быў надпіс: «сьвента Марыя, матка-боска, зьлітуйся над намі!»

Паходны алтар Швэйк шчасьліва ўсклаў на карахвашку, а сам сеў да фурмана на перадок. Фэльдкурат разьмясьціўся як найвыгадней і паклаў ногі на сьвятую тройцу.

Швэйк гаманіў з фурманам пра вайну. Фурман быў бунтар: ён рабіў заўвагі пра непераможнасьць аўстрыйскага войска, накшталт таго: «Далі вам добрага гасу ў Сэрбіі, га?»—і г. д.

Калі яны пераяжджалі праз харчовую заставу і ў іх запыталіся, што яны вязуць, Швэйк адказаў.

— Прасьвятую тройцу і матку-боску з фэльдкуратам.

На вучэбным пляцы іх тымчасам нецярпліва чакалі атрады, якія выпраўляліся ў паход. Чакаць давялося доўга. Швэйк і фэльдкурат перш паехалі за прызавым кубкам да паручніка Вітынгера, а пасьля ў Бржэноўскі манастыр за дарахранільніцай і іншымі прыладамі да імшы, у тым ліку і за пляшкай царкоўнага віна.

Па ўсім гэтым відаць, што ня надта проста правіць палявую імшу.

— Кідаемся па ўсім горадзе,—сказаў Швэйк фурману—і гэта была праўда.

Калі яны пад'ехалі да вучэбнага пляцу і ўжо падышлі да памосту з драўлянымі парэнджамі і сталом, на які павінны былі паставіць паходны алтар, высьветлілася, што фэльдкурат забыўся паклапаціцца пра міністранта.

Яму заўсёды прыслужваў за імшой адзін пехацінец, які, аднак, улічыў за лепшае падацца ў тэлефоністыя і паехаў на фронт.

— Дармо, пане фэльдкурат,—сказаў Швэйк,— я магу яго падмяніць.

— А вы ўмееце міністраваць?

— Ніколі за гэту справу ня браўся, але чаму не паспрабаваць. Цяпер-жа вайна, а пад час вайны людзі бяруцца за такія справы, якіх яны раней і ня сьнілі. Неяк ужо гэтае глупства «і са духам тваім» на вашае «госпад з вамі» адчырыжу. Нарэшце, ня надта ўжо й цяжка, я мяркую, хадзіць каля вас, як кот навакол гарачае кашы, памагаць вам мыць рукі ды падліваць у чашу віна...

— Добра,—сказаў фэльдкурат.—Адно вады мне ў чашу налівайце. Во што: вы лепш зараз-жа

і ў другі збан наліце віна. А рэшта—я вам сам буду падказваць, калі ісьці вам направа, а калі налева. Калі я ціхенька сьвісну адзін раз, дык гэта значыць—направа, а калі два разы, дык—налева. Трэбнік асабліва часта мне ня торкайце. Рэшта—глупства, не палохайцеся.

— Я нічога не палохаюся, пане фэльдкурат, і нават міністраваньня.

Фэльдкурат меў рацыю, калі казаў, што рэшта—глупства. Усё ішло, як на мазі.

Прамова фэльдкуратава была надта лаконічная:

— Салдаты! Мы тут сышліся на тое, каб перад выездам на поле брані ўзьнесьці свае сэрцы да бога, каб ён паслаў нам перамогу і захаваў нас жывых. Ня буду вас доўга затрымліваць,—зычу вам усяго найлепшага.

— Вольна!—скамандаваў стары палкоўнік на левым флянгу.

Палявая імша завецца «палявая» таму, што падлягае тым самым законам, як і ваенная тактыка на полі бою. Пад час працяглых манэўраў войска ў трыццацёхгадовую вайну і палявыя імшы былі працяглыя; за сучаснай тактыкай, калі войска перасоўваецца надзвычай шпарка, і

палявая імша павінна быць такая-ж рухавая ды шпаркая.

Імша цягнулася акурат дзесяць хвілін. Тыя, што стаялі бліжэй, дзіву даваліся, чаму пад час імшы фэльдкурат прысьвіствае.

Швэйк лётам лавіў сыгналы і зьяўляўся то па-права, то па-лева ад алтара, не вымаўляючы нічога іншага, апроч «і са духам тваім». Яго бягня вакол фэльдкурата нагадвала індыйскія скокі ва-кол ахвярніка. Але агулам усё зрабіла дужа добрае ўражаньне і разьвеяла нудэту пылянага, панурага вучэбнага пляцу, аблямаванага прыса-дамі сьлівяных дрэў і прыбіральнямі, дух ад якіх падмяняў містычны пах ладану ў готычных хра-мах. Імша ўвяла ўсіх у добры гумар. Афіцэры, скупаваўшыся каля палкоўніка, расказвалі анэк-доты—усё ішло добрым ладам. Сям-там сярод салдатаў чуць было: «Дай разок пацягнуць!» І, нібы ахвярны дым, узьнімаліся ў неба сінявыя цурочкі табачнага дыму. Закурылі і ўсе унтэр-афіцэры, як убачылі, што сам палкоўнік закурыў.

Нарэшце скамандавалі: «На малітву!» Узь-няўшы пыл, шэры квадрат вайсковых мундзіраў укленчыў перад кубкам паручніка Вітынгера, які той атрымаў за спаборніцтва на бягню Вена—Мэдлінг.

Чаша праз увесь час была поўная, і кожная фэльдкуратава маніпуляцыя выклікала спагадную крытыку салдатаў.

— Добра глынуў!—пералятала па радох.

Сьвятая цырамонія адбылася двойчы. Потым яшчэ раз скамандавалі: «На малітву!», хор на закуску грымнуў гымн, і, падвоіўшы рады, калёна рушылася ў паход.

— Зьбірайце манаткі,—сказаў Швэйку фэльдкурат, паказваючы на паходны алтар.—Трэба паразвозіць іх туды, адкуль бралі.

Яны паехалі на тым самым рамізьніку і сумленна вярнулі ўсё, апрача пляшкі царкоўнага віна.

Калі яны прыехалі дахаты, і выправілі няшчаснага рамізьніка расквітацца за язду ў комэнданцкую ўправу, Швэйк зьвярнуўся да фэльдкурата:

— Дазвольце запытаць, пане фэльдкурат, ці павінен быць міністрант таго самага веравызнаньня, што й ксёндз, якому ён прыслужвае за набажэнствам?

— Бязумоўна,—адказаў фэльдкурат.—Іначай імша лічылася-б несапраўднай.

— Пане фэльдкурат! Вышла вялікая памылка!—заявіў Швэйк.—Я не належу ні да

якога веравызнаньня. Не шанцуе мне, дый годзе.

Фэльдкурат зірнуў на Швэйка, з хвіліну змоўчыў, потым палэпаў Швэйка па плячы і сказаў:

— Дапіце царкоўнае віно, што там ад мяне засталося, і лічыце, што вы нанова ўвайшлі ва ўлоньне каталіцкае цэрквы.

## Рэлігійны дыспут.

Швэйк цэлымі днямі, траплялася, ня бачыў ахоўніка салдацкіх душ. Свае духоўныя абавязкі фэльдкурат чаргаваў з гулянкамі і досыць рэдка стыкаўся ў хаце, дый то прыходзіў увесь завэдзганы і пакомчаны, нібы марцовы кот пасьля вандраваньняў па стрэхах.

На тыя выпадкі, калі фэльдкурат прыходзіў начаваць дахаты, ён, кладучыся спаць, гаманіў са Швэйкам пра высокія матэрыі, пра духоўны экстаз, і пра радасьці мысьленьня, а часам спрабаваў імпровізаваць вершамі ці дэклямаваць Гэйнэ.

Швэйк адправіў з фэльдкуратам яшчэ адну палявую імшу, у сапёраў. Туды-ж сама ў памылцы запрасілі другога фэльдкурата, былога

настаўніка закону божага ў школе, надзвычай, набожнага чалавека. Ён надта зьдзіўлена зірнуў быў на свайго колегу Каца, калі той прапанаваў яму глынуць каньяку з швэйкавае фляжкі, якая ў Швэйка пад час выкананьня духоўных функцый заўсёды была напагатове.

— Каньяк някепскае маркі,—сказаў Отто Кац.—Выпіце ды й едзьце дахаты. Я ўжо спраўлюся тут адзін. Сёньня мне трэба пабыць на сьвежым паветры, а то ў мяне нешта ломіць галаву.

Набожны фэльдкурат паківаў галавой ды паехаў, а Кац спраўляў сваю ролю, як заўсёды, з надзвычайнай удачай. На гэты раз за боскую кроў, пашоў крушон, і казаньне задоўжылася больш, як звычайна. Кожнае трэцяе слова ў фэльдкурата было «і гэтак далей» або «гэта факт».

— Салдаты! Сёньня вы ад'яжджаеце на фронт і гэтак далей. Узьнясеце-ж сэрцы вашы да бога і гэтак далей. Гэта—факт. Ніхто з вас ня ведае, што з ім будзе. Гэта—факт. І гэтак далей.

І з алтара неслася «і гэтак далей» ды «гэта факт» на перамену з богам і з усімі сьвятымі. У запале красамоўства фэльдкурат выдаў прынца Аўгена Савойскага за нейкага сьвятога, які

будзе ахоўваць сапёраў і іхныя пантонныя масты, адылі палявая імша скончылася бяз усякай спакусы—прыемна і весела. Сапёры пацешыліся, як мае быць.

Паваротам дахаты Швэйка з фэльдкуратам не хацелі ўпусьціць у трамвай са складаным алтаром, дык Швэйк пагразіў кандуктару:

— Глядзі, вось трэсну цябе гэтым сьвятым алтаром па чэрапе!

Дацягнуўшыся, нарэшце, да хаты, яны агледзелі, што згубілі дарахранільніцу.

— Дармо,—сказаў Швэйк.—Першыя хрысьціяне правілі набажэнствы і без дарахранільніцы. Даўшы нам у газэту абвестку аб згубе, дык той, хто знайшоў, будзе вымагаць перайма. А каб мы згубілі грошы, дык наўдачу, каб хто нам вярнуў іх... Адылі можна натрапіць і на такога. У нас у палку ў Будэповіцах быў адзін гэткі: добры хлопец, але дурны. Знайшоў ён неяк сярод вуліцы пяцьсот крон і здаў іх у паліцыю. У газэтах пра яго напісалі: вось, бач, які сумленны чалавек. Ну і набраўся ён сораму. Ніхто з ім не хацеў пасьля гэтага ніякае справы весьці. Усе казалі яму: «Дурны, што ты гэта нарабіў? За гэта табе праз усё жыцьцё чырванець прыдзецца, калі ў габе хоць кропля сумленьня выста612лася».

Была ў яго раней дзяўчынка, дык і тая з ім гаварыць перастала. А як прыехаў ён на пабыўку дамоў, дык ягоныя прыяцелі, даведаўшыся пра гэту гісторыю, выкінулі яго пад-час скокаў з піўніцы. Хлапец зачаўрыў, пачаў задумляцца і з рэшты кінуўся пад поезд... А вось яшчэ выпадак. Кравец з нашае вуліцы знайшоў залаты пярсьцёнак. Яму раілі—не аддавай у паліцыю, а ён упяўся на сваім. У паліцыі сустрэлі яго ветла, сказалі, што заяву пра згубу залатога пярсьцёнка з дыямэнтам да іх падалі і ўсё іншае. Адылі паглядзелі на камень дый кажуць яму: «Чакай добры чалавеча, ды гэта-ж шкло, а не дыямэнт. Колькі ўзяў за каменчык? Ведаем мы гэткіх знайдаў!» Канцы канцамі высьветлілася, што адначасна згубіў нехта пярсьцёнак з праўдзівым дыямэнтам, а другі—гэткі самы з фальшывым (нейкая там сямейная рэліквія). Але краўцу давялося ўсё-ткі выседзець тры дні, бо ён сазлосьці дапусьціў зьняважлівы выраз у адрас паліцыі. Належную ўзнагароду ён атрымаў сваім парадкам, дзесяць процантаў, гэта значыць—адну крону і дваццаць гэлераў,—тая дрэнь каштавала адных дваццаць крон. Кравец гэтай належнай узнагародай шпурхнуў гаспадару пярсьцёнка ў хару, той падаў у суд за абразу, і з

краўца злупілі дзесяць крон штрафу. Пасьля гэтага кравец усюды казаў, што з таго, хто сумленна заявіць пра знаходку, і дваццаць пяць крон штрафу мала, што яго трэба зьбіваць да паўсьмерці пры ўсім народзе, каб іншыя навучаліся, як трэба рабіць у гэткіх выпадках... На мой розум, ніхто нашу дарахранільніцу назад не прынясе, дармо, што на ёй ззаду палкавая пячатка. Ніхто з скарбовымі рэчамі звадзіцца не захоча. Хутчэй ужо ўкіне яе ў ваду, каб ня трапіць у бяду... Учора ў шынку «Каля залатога вянка» разгаманіўся я з адным чалавекам з провінцыі, гадоў шэсьцьдзесят яму будзе. Ён прыехаў у Новую Паку скардзіцца ва ўправу акругі, што ў яго рэквізавалі карахвашку. Паваротам назад, як ужо яго з управы акругі выкінулі, ён суняўся падзівавацца на ваенны абоз. Нейкі хлапец з абозных, які вёз консэрвы для арміі, папрасіў яго з хвіліну папільнаваць коняй, ды больш і не вярнуўся. Калі абоз рушыў у дарогу, старому прышлося ехаць з усімі, і такім парадкам ён трапіў у Вэнгрыю, а там ён сам папрасіў аднаго разявайлу папільнаваць яго возу і толькі гэтым і ратаваў сябе, а то-б яго і ў Сэрбію зацягнулі. З таго часу, кажа, расчыніліся ў яго

вочы, і ён больш з скарбовымі рэчамі ня хоча мець ніякае справы.

Увечары прышоў той самы набожны фэльдкурат, што ўраньні тож меўся правіць палявую імшу ў сапёраў. Гэта быў фанатык, які імкнуўся чыста ўсіх прыцягнуць да бога. Яшчэ як быў настаўнікам закону ў школе, ён разьвіваў рэлігійныя пачуцьці ў дзяцей аплявухамі, і газэты часам зьмяшчалі пра яго допісы накшталт «Жорсткі настаўнік закону божага» або «Выкладаньне закону божага з дапамогаю аплявух». Настаўнік-жа закону быў перакананы, што дзіця ўбярэ ў галаву сабе катахізм лепш за ўсё па аўстрыйскай сыстэме. Набожны фэльдкурат троху кульгаў на адну нагу—вынік сустрэчы ў цёмным завулку з бацькам аднаго вучня. Настаўнік закону божага надаваў у карак ягонаму сыну за тое, што тоў выказаў неймавернасьць да існаваньня сьвятой тройцы; небарака-хлапец дастаў за гэта тры таўкачы: адзін—за бога-айца, другі—за сына і трэці—за сьвятога духа.

Такім чынам, набожны фэльдкурат прышоў абарачаць свайго колегу Каца на правільны шлях і абуджаць у ім сьвятое сумленьне. Ён пачаў з таго, што зазначыў Кацу:

— Дзіўлюся, чаму гэта ў вас нідзе няма

крыжа? Дзе ў вас малітаўнік? Ніводзін сьвяты абраз не аздабляе сьцен вашага пакою. Што гэта ў вас там над ложкам?

Кац усьміхнуўся.

— Гэта—«Купаньне Сусанны», а голая жанчына ніжэй—адна мая старая прыяцелька. Направа—японская акварэль, якая малюе родавы акт паміж старым самураем і гэйшай. Ці праўда, дужа арыгінальна? А малітаўнік у мяне на кухні. Швэйк! Прынясеце яго сюды і разгарнеце на трэцяй староньцы.

Швэйк пайшоў на кухню, і адтуль пачулася, як тройчы покнулі адкаркаваныя бутэлькі.

Набожны фэльдкурат зьбянтэжыўся, як убачыў на стале тры бутэлькі.

— Гэта лёгкае царкоўнае вінцо, колега,—сказаў Кац.—Надзвычай добры рысьлінг. Смакам нагадвае модэльскае.

— Я піць ня буду,—занатурыўся набожны фэльдкурат.—Я прышоў, каб абараціць вас на правільны шлях.

— Алеж у вас перасохне ў горле. Выпейце трошку, а я паслухаю. Чалавек я лагодны, магу паслухаць і чужыя думкі.

Набожны фэльдкурат троху глынуў, і вочы ў яго палезьлі на лоб.

— Ну й віно, на яго ліха. Як, колега, а— запытаўся Кац.

Фанатык цьвёрда сказаў:

— Я заўважаю, што вы вымаўляеце няпрыстойныя словы.

— Прывычка, — сказаў Кац. — Часам нават лаўлю сябе на тым, што абражаю бога. Швэйк, наліце пану курату. Паслужыце-тка на вайсковай службе столькі, як я,—яшчэ ня гэтак будзеце лаяцца. Піце, дарагі колега.

Былы настаўнік закону божага няўпрыцям для сябе выпіў. Відаць было, што яму карціць нешта сказаць, ды ня змога. Ён парадкаваў думкі.

— Паважаны колега,—гаварыў далей Кац,— больш бадзёрасьці, не ўдавайце з сябе чалавека, якога за пяць хвілін мусяць павесіць. Чуў я, нібы вы аднойчы ў памылцы зьелі ў пятніцу ў адным рэсторане біток з сьвініны і пасьля гэтага пабеглі ў прыбіральню ды ўторкнулі сабе два пальцы ў рот, каб вас званітавала, баючыся, каб бог не пакараў. Я-ж сам не баюся есьці ў пост мяса і не баюся ніякага пекла. Што з вамі? Выпіце хутчэй... Стала лепей?.. Ці можа ў вас больш прогрэсыўны погляд на пекла, мо вы ідзіцё аднэй ступою з сучаснымі павевамі думкі і з рэформі-

стымі? Гэта значыць, вызнаіцё, што ў пекле замест простых катлоў з серкай для няшчасных грэшнікаў ужываюцца Папінавыя катлы высокага даўленьня, што грэшнікаў падскварваюць на маргарыне, а ражны круцяцца электрычнасьцю? На працягу міліёнаў год трушчаць іх, гаротных, паравымі каткамі, якімі ўбіваюць сашу, іхныя енкі запісваюць на грамафонныя кружэлкі, ды потым гэтыя кружэлкі адсылаюць угару, у рай, на пацеху праведнікаў? А ў раі працуюць новыя распырсквальнікі одэколёнаў ды сымфонічныя оркестры анёлаў граюць Брамса так шчыра, што лепш уцячы з раю куды-небудзь у пекла або ў чысьцец? У анёлачкаў да азадкаў прымайстраваны пропелеры, каб не натрудзілі сабе крыльцаў?.. Піце, колега! Швэйк, налеце яму каньяку,—яму, здаецца, дрэнна.

Троху ахамянуўшыся, набожны фэльдкурат здушаным голасам пракулдыячыў:

— Рэлігія ёсьць разумовае сузіраньне... Хто ня верыць у існаваньне сьвятое тройцы...

— Швэйк,—перапыніў яго Кац,—налеце пану фэльдкурату яшчэ чарку коньяку—хай прачухаецца троху. Раскажэце яму што-небудзь, Швэйк!

— У Влашыме, дазвольце далажыць, пане фэльдкурат,—пачаў Швэйк,—быў адзін пробашч. Калі ягоная ранейшая экономка зьбегла разам з дзіцянём і грашмі, ён згадзіў сабе новую служанку. Гэты пробашч на старасьці ўдаўся ў вывучэньне сьвятога Аўгустына, які, кажуць, належыць да катэгорыі сьвятых айцоў цэрквы. Дачытаўся ён там, што кожны, хто верыць у антыподаў, падлягае праклёну цэрквы. Гукнуў ён сваю служанку ды й кажа ёй: «Слухайце, вы мне неяк казалі, што ў вас ёсьць сын сьлесар і што ён паехаў у Аўстралію. Калі гэта так, дык ён, значыць, стаў антыпод, а сьвяты Аўгустын загадвае праклясьці кожнага, хто верыць у існаваньне антыподаў». — «Бацюшка, — кажа яму баба,—сын-жа мой прысылае мне і лісты і грошы?»—«Гэта—д'яблавы штукі,—кажа ёй пробашч.—Паводле навукі сьвятога Аўгустына, ніякай Аўстраліі ня існуе. Гэта вас антыхрыст змушчае». У нядзелю ён у касьцёле аддаў яе перад усімі добрымі людзьмі на анафему і крычаў, што ніякае Аўстраліі ня існуе. Прышлося проста з касьцёлу завесьці яго ў вар'яцкі дом. Ды й шмат каму туды варта-б было. У урсулінак у манастыры ёсьць бутэлечка з малаком дзевы Марыі, якім яна карміла малога езуса, а ў дзіцячым

прытулку пад Бэнэшовам, калі туды прывезьлі сьвятую Лурдзкую ваду, усіх ад яе пагнала так, што хоць ты гвалту крычы.

У набожнага фэльдкурата замуцілася ў ваччу. Ён ачуняў толькі пасьля новае чаркі каньяку. Каньяк даў яму ў галаву. Прыплюшчыўшы вока, ён запытаў Каца:

— Вы ня верыце ў бязмужнае мацярынства дзевы Марыі, ня верыце, што палец Яна хрысьціцеля, які захоўваюць піярыстыя, сапраўдны? Ды ці верыце вы ў бога наогул? А калі ня верыце, дык чаму-ж вы за фэльдкурата?

— Даражэнькі колега,—адказаў Кац, фамільярна палэпаўшы яго па сьпіне,—пакуль дзяржава ня прызнае, што салдаты, якія ідуць паміраць у баёх, не патрабуюць божага блаславеньня, датуль пасада фэльдкурата добра аплачваецца і лішне не абцяжарвае чалавека. Гэта мне больш да ўпадобы, чымся бегаць па пляцы ды хадзіць на манэўры. Даўней мне давалі розныя загады, а цяпер я раблю, што хачу. Я замяшчаю некага, хто ня існуе, і сам граю роль бога. Не захачу каму-небудзь даравацъ грахоў, дык не дарую, хоць на калены прада мной станавіся. Адылі гэткіх знойдзецца надзвычай мала.

— Люблю госпада бога,—ікнуў набожны фэльдкурат,—дужа люблю... Дайце мне віна. Шаную господа бога і паважаю. Нікога так не паважаю, як яго...

Ён грукнуў кулаком аб стол, аж бутэлькі пападскоквалі.

— Бог—найвышэйшая, незямная істота, дасканалая ўва ўсіх сваіх праявах. Гэта—асьвечаная сонцам істота, і ніхто мяне на іншае не пераканае. І сьвятога Язэпа шаную, і ўсіх сьвятых, і нават сьвятога Сарапіёна... У яго дужа брыдкае імя...

— Так, яму-б ня шкодзіла паклапаціцца, каб адмяніць,—зазначыў Швэйк.

— Сьвятую Людмілу люблю і сьвятога Бэрнара,—гаварыў далей былы настаўнік закону божага.—Ён ратаваў многа падарожнікаў на Сэн-Готардзе. На шьпі ў яго бутля з каньяком, і ён адшуквае завеяных сьнегам...

Забава ўзяла новы кірунак. Набожны фэльдкурат панёс усякую лухту.

— Дзяцей я люблю, іхны дзень дваццаць восьмага сьнежня. Ірада я ненавіжу... Калі курыца сьпіць, няможна дастаць сьвежых яек.

Ён засьмяяўся і запеў:

«Сьвяты божа, сьвяты крэпкі»...

але ўраз суняўся і, абярнуўшыся да Каца, злосна запытаўся:

— Вы ня верыце, што пятнаццатага жніўня Вялікая Прачыста?

Гулянка йшла на ўсе застаўкі. Зьявіліся яшчэ бутэлькі, і Кац раз-по-раз змушчаў набожнага фэльдкурата:

— Скажы, што ня верыш ў бога, а то не нальлю.

Здавалася, што варочаюцца часы ганеньняў на першых хрысьціян. Былы настаўнік закону божага пеў нейкую песьню мучальнікаў рымскай арэны і гвалтаваў:

— Веру ў госпада бога свайго і не зракуся яго. Ня трэба мне твайго віна. Магу і сам за ім пасланць.

Нарэшце, яго паклалі. Але перш, чымся заснуць, ён выгаласіў, узьняўшы руку, як пад прысягай:

— Веру ў бога айца, сына і сьвятога духа. Дайце мне малітаўнік.

Швэйк уторкнуў яму першую, якая трапілася пад руку, кніжку з начнога століка Отто Каца, і набожны фэльдкурат, нарэшце, заснуў з Дэкамэронам Бокачыо ў руках.

## Швэйк едзе саборавадь.

Фэльдкурат Отто Кац у задуме сядзеў над паперай, якую вось толькі прынесьлі з кашар. Гэта быў цыркуляр ваеннага міністэрства:

«Гэтым ваеннае міністэрства адмяняе на час ваенных дзеяньняў усе, якія былі дасюль, наказы, што да апошняга прычасьця вайскоўцаў. Да выкананьня і ведама вайсковага духавенства ўстанаўляюцца наступныя правілы:

§ 1. Саборваньне на фронце адмяняецца.

§ 2. Цяжка параненым і хворым не дазваляецца з мэтай саборваньня перамяшчацца ў тыл. Чынам вайсковага духавенства прапануецца вінаватых у невыкананьні гэтага незабаўна аддаваць у адпаведныя вайсковыя ўстановы дзеля далейшых росьследаў.

§ 3. У вайсковых шпіталях у тыле саборваньне можа адбывацца ў групавым парадку і на падставе заключэньня вайсковых лекараў, калі гэтая сьвятая цырамонія не парушае працы памянёных установ.

§ 4. Вайсковае духавенства абавязана па прапозыцыі галоўных лекараў шпіталяў чыніць саборваньне над асобамі, паказанымі управай шпіталю»,

Потым фэльдкурат прачытаў яшчэ раз аднось-нік вайсковага шпіталю, у якім яму прапанавалі зьявіцца назаўтрага ў шпіталь на Карловым пляцы саборваць цяжка параненых.

Фэльдкурат гукнуў Швэйка.

— Слухайце, Швэйк, ну ці-ж гэта ня сьвінства? Нібыццам на ўсю Прагу няма ніводнага фэльдкурата апроч мяне. Чаму-б туды не паслаць хоць-бы сабе гэтага набожнага ксяндза, які начаваў у нас нядаўна? Прыдзецца нам ехаць на Карловы пляц саборваць. Я забыўся нават, як гэта робіцца.

— Што-ж, купім катахізм, пане фэльдкурат. Там пра гэта ёсьць. Катахізм духоўным айцам— усё роўна, што праваднік чужаземцам... Адзін мой знаёмы служыў у Эмавускім манастыры за гароднiка. Надумаў ён зрабіцца паслушнікам, каб атрымаць расу і ня драць дарма свае вопраткі. Дзеля гэтага яму прышлося купіць катахізм і падвучыцца, як трэба хрысьціцца, як усьцерагчыся ад першароднага грэху, што значыць—мець чыстае сумленьне ды іншае глупства. Вывучаў, а пасьля прадаў цішком палавіну ўсяго ўраджаю гуркоў з манастырскага гароду ды з гвалтам вылецеў з манастыра. Неяк мы з ім сустрэліся,

дык ён і кажа: «А гуркі я здолеў збахтарыць і без катахізму».

Як дасталі катахізм, фэльдкурат, гартаючы яго, сказаў:

— Ну вось, саборваньне можа чыніць толькі сьвяшчэньнік і толькі алівай, асьвенчанай біскупам. Як бачыце, Швэйк, вам няможна самому зрабіць саборваньне. Прачытайце-тка мне, як яно робіцца.

Швэйк прачытаў:

— «...робіцца так: сьвяшчэньнік памазуе органы пачуцьцёў хворага, вымаўляючы разам з гэтым малітву: «Праз гэта памазаньне, дзеля свае бясконцае літасьці, хай даруе табе бог, што ты саграшыў зрокам, слыхам, нюхам, смакам, моваю ці дотыкам».

— Цікава-б ведаць,—сказаў фэльдкурат,—як можа чалавек саграшыць, напрыклад, дотыкам? Ці не растлумачылі-б вы мне гэта?

— Розна, пане фэльдкурат.—Даткнецца, напрыклад, да чужой кішэні. Зноў-жа, калі скокі... Ці мала там чаго вырабляецца.

— А нюхам?

— Калі хто нос ад чаго-небудзь верне.

— Ну, а смакам?

— Калі хто на дзевак аблізваецца.

— А мовая?

— Ну, гэта ўжо разам з слыхам, пане фэльдкурат: калі адзін брэша, а другі яго слухае...

— Значыць, нам трэба асьвенчаная біскупам аліва,—сказаў фэльдкурат пасьля гэтых філёзофскіх разважаньняў.—Маеце вось дзесяць крон, купеце пляшачку. У інтэнданцтве такой алівы, мабыць, няма.

Швэйк пайшоў за асьвенчанай біскупам алівай. Адшукаць яе было цяжэй, чымся казачную жывую вазу ў казках Бажэны Нямцовай. Швэйк паткнуўся ў некалькі аптэкарскіх магазынаў, і ці толькі вымаўляў: «будзьце ласкавы, пляшачку асьвенчанае біскупам алівы», усюды хоць рагаталі яму ў твар, а хоць у жаху хаваліся пад стойку. Швэйк на гэта не зважаў—ён быў надзвычайна сур'ёзны. Ён паспрабаваў пашукаць па аптэках. З першае загадалі яго вывесьці. У другой памкнуліся выклікаць хуткую дапамогу, а ў трэцяй провізар сказаў яму што ў фірмы Полак на Доўгай вуліцы—гандаль алеямі і лякамі; напэўна, знойдзецца на складзе патрэбная аліва.

Фірма Полак вяла гандаль жвава. Ніводзін купец ня выходзіў адтуль без здавальненьня. Калі купец прасіў кіндэрбальзаму, яму налівалі шкіпінар, і па тым.

Калі Швэйк папрасіў сьвянцонае алівы на дзесяць крон, гаспадар сказаў прыказчыку:

— Пан Таўхэн, налеце яму сто грам канаплянага алею нумар тры.

А прыказчык, загортваючы пляшачку, сказаў Швэйку, як і належыць прыказчыку:

— Найлепшы гатунак. Калі часам спатрэбіцца ляк, пакост, квачы—зрабеце ласку, зьвярнецеся да нас. Будзеце здаволены. Фірма сталая.

Тымчасам дома фэльдкурат паўтарыў з катахізму тое, чаго ня мог убіць сабе ў галаву ў сэмінарыі.

Яму дужа ўпадабаліся некаторыя надзвычай спрытныя выразы, ад якіх ён шчыра рагатаў.

«Саборваньне завецца іначай апошняе памазаньне, бо зазвычай зьяўляецца апошнім ад усіх памазаньняў, якія робяцца цэрквай над чалавекам».

«Саборваць належыць кожнага веруючага ў бога каталіка, у якога перад сьмерцю надышло прасьвятленьне розуму».

«Хворы прымае памазаньне па магчымасьці, знаходзячыся ў прытомнасьці».

Прышоў пасланец і прынёс фэльдкурату пакет з паведамленьнем пра тое, што заўтра за саборваньнем у шпіталі будзе прысутным Таварыства

дваранак па рэлігійным выхаваньні ніжэйшых чынаў». Гэтае таварыства складалася з гістэрычак, якія раздавалі салдатам у шпіталях абразкі сьвятых і «Апавяданьне пра каталіцкага ваяку, які памірае за гаспадара імпэратара». На гэтай брошурцы быў малюнак фарбамі, які выяўляў поле бою. Усюды валяюцца трупы людзей і коняй, абернутыя амуніцыйныя фурманкі і гарматы ляфэтамі ўгору. На кругавідзе гарыць вёска і разрываюцца шрапнэлі. Наперадзе ляжыць, памірае салдат з адарванай нагой, а над ім схіліўшыся анёл, які нясе яму вянок з надпісам на йстужцы: «Сёньня-ж будзеш са мною ў раі». Салдат мілосна ўсьміхаецца, нібы яму падносяць марожанае.

Прачытаўшы ўсё, што было ў пакеце, Отто Кац плюнуў, падумаўшы:

— Ну й будзе заўтра клопату.

Ён ведаў гэтую «шваль», як зваў ён гэта таварыства, яшчэ па царкве сьв. Ігнацяга, дзе колькі год таму назад чытаў казаньні салдатам. У тыя часы ён яшчэ налягаў на казаньні, а гэтае «таварыства» сядзела побач з палкоўнікам. Дзьве сухарлявыя жанчыны ў чорных сукнях і з ружанцамі прычапіліся да яго неяк пасьля казаньня і поўныя дзьве гадзіны лапаталі яму пра рэлігій-

нае выхаваньне салдат, пакуль не дадзелі яму так, што ён сказаў: «Прабачайце, васпані, але мяне чакае капітан на партыю ў фэрбл».

— Ну, аліва ў нас ёсьць,—сказаў урачыста Швэйк, вярнуўшыся з магазыну Полак,—канапляны алей нумар тры, першы гатунак. Хопіць на цэлы батальён. Фірма сталая. Прадае таксама пакост, лякі і квачы. Цяпер нам трэба званок.

— А званок навошта?

— Званіць дарогай, каб народ зьдзяваў шапкі, як мы паедзем з божым блаславеньнем і з канапляным алеем нумар тры. Так заўсёды робіцца. Траплялiся выпадкі, што арыштоўвалі, калі хто не зьдзяваў шапкі. Летась у Жыжкаве ксёндз зьбіў сьляпога, які ў гэткім выпадку ня зьдзеў шапкі. Сьляпога апроч таго яшчэ пасадзілі, бо на судзе яму давялі, што ён ня глуханямы, а толькі сьляпы і што званок ён павінен быў чуць і ня ўводзіць іншых у зман, хоць гэта й было сярод ночы. Іншым разам людзі на нас не зьвярнулі-б увагі, а цяпер будуць шапкі скідаць. Калі вы, пане фэльдкурат, не супярэчаце, дык я ўраз здабуду званок.

Атрымаўшы дазвол, Швэйк праз паўгадзіны прынёс званок.

— Гэта ад варот заезднага двара «Кры-

жык»,—сказаў ён.—Каштаваў мне званок пяць хвілін страху ды яшчэ давялося доўга чакаць— усё народ хадзіў міма.

— Я пайду ў кафэ, Швэйк,—сказаў фэльдкурат.—Калі хто прыдзе, хай пачакае.

Блізка праз гадзіну пасьля таго, як пайшоў фэльдкурат, прышоў паджылы чалавек, сівы, з вайсковай паставаю і строгім зіркам. Знадворны выгляд яго паказваў злосную рашучасьць. Было падобна да таго, што яго паслаў лёс зьністожыць нашу няшчасную плянэту і сьцерці яе сьляды з твару сусьвету. Гаварыў ён рэзка, суха і жорстка:

— Дома? Пайшоў у кафэ? Казаў—пачакаць? Добра, буду чакаць хоць да самага раньня. На кафэ ў яго ёсьць, а даўгі аддаваць дык няма? А яшчэ ксёндз! Цьфу!

І ён плюнуў.

— Васпан, ня плюйце тут,—сказаў Швэйк, з цікавасьцю гледзячы на незнаёмага.

— І яшчэ раз плюну, бачыце, вось так!— упарта сказаў жорсткі пан, і яшчэ раз плюнуў на падлогу.—Як яму ня сорам! А яшчэ вайсковы ксёндз! Ганьба!

— Калі вы далікатны чалавек,—зазначыў яму Швэйк,—дык павінны пазбыцца свае звычкі плюваць у чужой кватэры. Ці можа вы думаеце, што,

калі выбухнула вайна, дык вы ўсё можаце сабе дазволіць? Вы павінны паводзіць сябе прыстойна, а ня так, як хуліган. Да людзей, якія вас абкружаюць, вы павінны адносіцца далікатна і не распускацца, як басяк, цывільная вы шмотка.

— Суровы пан ускочыў з крэсла і, трасучыся ад злосьці, закрычаў:

— Што вы сказалі?.. Я паводжу сябе няпрыстойна? Вы, здаецца, сказалі, што я?.. Скажэце яшчэ раз...

— Паскуднік вы, во што,—сказаў Швэйк, гледзячы на яго з дакорам.—Плюе на падлогу, быццам ён у трамваі, у поезьдзе ці ў якім-небудзь публічным месцы. Я заўсёды дзівіўся, навошта ўсюды вісяць надпісы: «Плюваць забаронена», а цяпер я бачу, што гэта дзеля вас. Вас, відаць, ужо ўсюды добра ведаюць.

Твар суровага пана ўзяўся ўсімі колерамі вясёлкі, і з яго рынула цэлая патока лаянкі ў адрас Швэйка і фэльдкурата.

— Ну, скончылі вы сваю прамову?—запытаў Швэйк, калі незнаёмы зрабіў выснову: «абодвы вы нягоднікі разам з сваім фэльдкуратам».—Ці можа вы маеце што дадаць перад тым, як ляцець з ганкаў?

Але суровы пан так вычарпаў свой запас, што

яму ня ўзышло на думку аніводнае больш-менш людзкае лаянкі, і ён змоўк. Швэйк вырашыў, што чакаць далейшых дадаткаў ня варта. Ён расчапіў дзьверы, паставіў суровага пана тварам да сходаў... і такога ўдару не пасароміўся-б лепшы гулец зборнай футбольнай каманды сусьветных чэмпіёнаў. Усьлед суроваму пану на сходах прагучэў Швэйкаў голас:

— Іншым разам, калі трапіце ў далікатную кампанію, будзеце паводзіць сябе прыстойна.

Суровы пан доўга хадзіў пад вокнамі і чакаў фэльдкурата. Швэйк адчыніў вакно і наглядаў за ім.

Нарэшце, госьць дачакаўся. Фэльдкурат прывёў яго да сябе ў пакой і пасадзіў на крэсла насупроць сябе.

Швэйк моўчкі прынёс плявальніцу і паставіў яе перад гасьцём.

— Што вы робіце, Швэйк?

— Дазвольце далажыць, пане фэльдкурат, з гэтым панам ужо вышла тут невялічкая няпрыемнасьць за пляваньне на падлогу.

— Пакіньце нас адных, Швэйк, у нас ёсьць сякія-такія справы. Швэйк выпрастаўся павайскозаму.

— Так точна, пане фэльдкурат, пакіну вас адных.

І пайшоў на кухню.

У пакоі тымчасам ішла дужа цікавая гутарка.

— Вы прышлі атрымаць грошы па вэксалі, калі не памыляюся?—запытаўся фэльдкурат у свайго госьця.

— Так, і спадзяюся...

Фэльдкурат уздыхнуў.

— Чалавек часьцяком трапляе ў такое становішча, што яму нічога больш не выпадае рабіць, як толькі спадзявацца. О, як прыгожа гучыць слова «надзея» з тае высока-поэтычнае трыяды «Вера, Надзея, Любоў», якая ўздымае чалавека над жыцьцёвай будзённасьцю...

— Я спадзяюся, пан палкавы ксёндз, што сума...

— Бязумоўна, васпане,—перапыніў яго фэльдкурат,—магу яшчэ раз паўтарыць, што слова «надзея» надае чалавеку сілы ў яго жыцьцёвым змаганьні. Ня губляйце і вы надзеі. Як добра мець поўны ідэал, быць бязьвінным, бязгрэшным стварэньнем, якое дае грошы пад вэксалі і спадзяецца атрымаць сваячасова грошы назад. Спадзявацца заўсёды спадзявацца, што я за-

плачу вам тысячу дзьвесьці крон, тымчасам, як у мяне ў кішэні няма і поўнае сотні.

— У такім разе вы...—захліпнуўся госьць.

— У такім разе я...—адказаў фэльдкурат.

На гасьцёвым твары зьявілася зноў упартая і злосная міна.

— Васпан, гэта жульніцтва! — сказаў ён, устаючы.

— Супакойцеся, даражэнькі...

— Гэта—жульніцтва!—закрычаў госьць.—Вы скарысталі маю даверлівасьць...

— Васпан,—сказаў фэльдкурат,—вам бязумоўна не пашкодзіць перамена паветра. Тут надта горача. Швэйк!—крыкнуў ён.—Гэтаму пану трэба падыхаць сьвежым паветрам.

— Дазвольце далажыць, пане фэльдкурат,— пачулася з кухні,—я яго ўжо раз выкінуў.

— Паўтарыць! — скамандаваў фэльдкурат і каманда была выпаўнена хутка і спрытна.

Вярнуўшыся з ганкаў, Швэйк сказаў:

— Добра, што мы адкараскаліся ад яго пакуль ён ня ўправіўся яшчэ набуяніць... Быў у Малешыцы адзін шынкар, вялікі грамацей, і ў яго на ўсё былі цытаты з сьвятога пісьма. Калі яму даводзілася лупцаваць каго-небудзь бізуном з бычынага жыльля, ён заўсёды прыгава-

рваў: «Хто шкадуе лазы, той ненавідзе сына свайго, а хто яго любіць, той у пару карае яго... Я табе пакажу, як біцца ў мяне ў шынку».

— Вось бачыце, Швэйк, што напаткае кожнага, хто не шануе ксяндза,—усьміхнуўся фэльдкурат.—Сьвяты Ян Златавуст сказаў: «Хто шануе пастыра свайго, той шануе хрыста ў пастыры сваім, а хто зьневажае пастыра, той зьневажае госпада, намесьнікам якога ёсьць пастыр»... Да заўтрашняга саборваньня нам трэба добра падрыхтавацца. Засмажце яечню з вянглінай, згатуйце пунш-бордо, а потым ахвяруем сябе на душэўныя разважаньні, бо, як сказана ў вячэрняй малітве: «Божай літасьцю адхілены ўсе падступствы ворагаў супроць дому гэтага».

Бываюць на сьвеце трывалыя людзі—да іх належыў і чалавек, двойчы выкінуты з фэльдкуратавае кватэры. Ці толькі згатавалі вячэру, нехта пазваніў. Швэйк пайшоў адчыніць, неўзабаве вярнуўся і далажыў:

— Ён зноў тут, пане фэльдкурат, я яго да часу замкнуў у ванным пакоі, каб нам можна было спакойна павячэраць.

— Нядобра вы зрабілі, Швэйк,—сказаў фэльдкурат,—госьць у хату—бог у хату. У даўнейшыя часы на банкетах прымушалі блазнаў

пацяшаць гасьцей. Прывядзеце-тка яго сюды, хай ён нас трохі пацешыць.

Праз хвіліну Швэйк вярнуўся з настойлівым панам. Пан глядзеў пахмура.

— Сядайце,—ласкава запрасіў фэльдкурат.— Мы якраз канчаем вячэру. Мы толькі вось елі омара і ласасіну, а цяпер узяліся за яечню з вянглінай. Чаму нам не параскашавацца, калі на сьвеце ёсьць людзі, якія пазычаюць грошы?

— Спадзяюся, што я тут не для жартаў,—сказаў пахмуры пан.—Я тут сёньня ўжо трэці раз. Спадзяюся, што цяпер усё высьветліцца.

— Дазвольце далажыць, пане фэльдкурат,— зазначыў Швэйк,—гэта-ж гідра. Накшталт аднаго Броўшака з Лібні. Восемнаццаць разоў узапар яго выкідалі з піўніцы «Экснэр», і што раз ён варочаўся,—бач, «забыўся люльку». Ён лез у дзьверы, у вокны, праз кухню, праз сьцены, праз склеп і, мабыць, спусьціўся-б па коміну, каб яго са страхі не зьнялі пажарнікі. Такі быў насядзісты хлопец, мог быць міністрам або паслом! Наклалі яму, як мае быць!

Настойлівы пан, не ўважаючы на тое, што кажуць, упарта паўтараў:

— Я хочу канчаткова высьветліць нашыя справы і прашу мяне паслухаць.

— Гэта вам дазваляецца,—сказаў фэльдкурат.—Кажэце, даражэнькі. Кажэце, колькі ўлезе, а мы пакуль што будзем далей банкетваць. Спадзяюся, што гэта ня будзе перашкаджаць вашай гаворцы? Швэйк, падавайце на стол.

— Як вам вядома,—сказаў настойлівы пан,—цяпер вайна. Я пазычыў вам гэтую суму да вайны і, каб не вайна, так-бы настойліва не спаганяў. Але я ўправіўся ўжо здабыць дрэнную практыку.

Ён выняў з кішэні запісную кніжку.

— Тут у мяне ўсё запісана. Паручнік Яната быў мне вінават семсот крон, але, не ўважаючы на гэта, ён пастараўся загінуць у баі на Дрыне. Падпаручнік Прашэк трапіў у палон на рускім фронце, а ён мне вінават дзьве тысячы крон. Капітан Віхтэрлэ, завінаваціўшыся ў мяне на гэткую самую суму, не спасьцярогся і быў забіты сваімі ўласнымі салдатамі каля рускае Равы. Паручнік Махэк папаўся ў Сэрбіі ў палон, а ён вінават мне паўтары тысячы крон. І ці мала гэткіх? Адзін гіне на Карпатах з незаплочаным мне вэксалем, другі трапляе ў палон, трэці, як на зло мне, топіцца ў Сэрбіі, а чацьверты памірае ў шпіталі ў Вэнгрыі. Цяпер вы разумееце, чаму я непакоюся? Гэтая вайна загубіць мяне, калі я ня буду энэр-

гійны ды неўгаворны. Вы мне можаце пярэчыць, што вам не паграджае непасрэдная небясьпека. Дык зірнеце!

Ён тыркануў пад нос фэльдкурату сваю запісную кніжку.

— Бачыце: фэльдкурат Матыяш памёр тыдзень таму ў заразным шпіталі ў Брнэ. Хоць ты гвалту крычы. Не заплаціў мне тысячу восемсот крон ды ідзе ў халерны барак саборваць нейкага чалавека, да якога ніякіх адносін ня мае.

— Гэта быў яго абавязак, мілы чалавек,—сказаў фэльдкурат.—Я тож пайду заўтра саборваць.

— І тож у халерны барак,—зазначыў Швэйк.— Вы можаце пайсьці з намі, зірнуць, што значыць—ахвяраваць сабой.

— Пане палкавы ксёндз,—сказаў настойлівы пан,—дайце веры, я згалеў дашчэнту. Вайна вядзецца, як відаць, затым, каб перавесьці на той сьвет усіх маіх вінавайцаў.

— Калі вас павалакуць на вайсковую службу,—зноў утрыўся ў гутарку Швэйк—мы з панам фэльдкуратам адправім малебен, каб з боскай дапамогай самая першая граната выправіла вас на той сьвет.

— Васпан, я прышоў да вас за сур'ёзнай справай, — сказала гідра, зьвярнуўшыся да

фэльдкурата.—Настойна прашу вас забараніць вашаму дзяншчыку лезьці ў нашыя справы і даць нам магчымасьць іх скончыць.

— Прабачайце, пане фэльдкурат, — адгукнуўся Швэйк,—будзьце ласкавы, самі загадайце мне, каб ня лез у вашыя справы, бо іначай я й надалей буду абараняць вашыя інтарэсы, як належыць кожнаму шчыраму салдату. Гэты пан мае сваю рацыю—яму хочацца пайсьці адсюль самому, без староньняе дапамогі. Ды й я ня люблю скандалаў,—я чалавек далікатны.

— Мне ўжо гэтая справа пачынае дакучаць, Швэйк—сказаў фэльдкурат, нібы не прымячаючы прысутнасьці гасьця.—Я думаў, што ён нас пацешыць, раскажа нам якія-небудзь анэкдоты, а ён вымагае, каб я рэкомэндаваў вам ня лезьці ў ягоныя справы, не зважаючы на тое, што вы два разы ўжо мелі з ім справу. У вечар перад такой важнай рэлігійнай цырамоніяй, калі ўсе пачуцьці свае я павінен ўзьнесьці да бога, ён чэпіцца да мяне з нейкай недарэчнай гісторыяй пра няшчасныя тысяча дзьвесьці крон, адхіляе мяне ад іспыту майго сумленьня, ад бога, і дамагаецца таго, каб я яму яшчэ раз сказаў, што цяпер ня дам. Ня хочу я з ім больш гутарыць, каб не апаганьваць гэтага сьвятога вечару. Ска-

жыце яму, Швэйк: «Пан фэльдкурат вам нічога ня дасьць».

Швэйк выканаў загад, раўнуўшы гэта гасьцю ў самае вуха.

Адылі настойлівы пан застаўся на месцы.

— Швэйк,—сказаў фэльдкурат,—запытайся яго, ці доўга ён яшчэ мае сядзець тут?

— Я не крануся з месца, пакуль мне ня будзе заплочана,—упарта заявіла гідра.

Фэльдкурат устаў, падышоў да вакна і сказаў:

— У такім разе, перадаю яго вам, Швэйк. Рабеце з ім, што хочаце.

— Пойдзем, васпане,—сказаў Швэйк, узяўшы гасьця за плечы.—Бог тройцу любіць.

І паўтарыў сваё практыкаваньне шпарка й шыкоўна пад хаўтурны марш, які тарабаніў на ваконнай шыбе фэльдкурат.

Вечар, прысьвечаны душэўным разважаньням, прайшоў праз некалькі фаз. Фэльдкурат так шчыра і палка імкнуўся да бога, што ўжо а дванаццатай гадзіне ўначы па кватэры разьлягалася яго пяяньне:

Калі ў паход мы зьбіраліся,
Дзеўкі сьлязьмі абліваліся...

З ім разам сьпяваў і добры ваяка Швэйк.

* * *

У вайсковым шпіталі саборваньня патрабавалі двое: стары і афіцэр з запасных, былы банкаўскі чыноўнік. Абодвы яны дасталі сабе па кулі ў жывот і ляжалі побач. Афіцэр з запасных уважаў за свой абавязак саборвацца, бо яго начальнік, майор, жадаў прыняць саборваньне, і ён, падлеглы, лічыў, што парушыць дысцыпліну, калі ня дасьць сябе саборваць. Набожны майор меў поўную рахубу—ён меркаваў, што малітва вылечыць яго ад хваробы. Адылі ўначы перад саборваньнем абодвы памёрлі, і калі раніцай у шпіталь зьявіліся фэльдкурат са Швэйкам, абодва ваякі ляжалі пад посьцілкамі са счарнелымі, як у задаўленьнікаў, тварамі.

— Эх, якога форсу мы з вамі напусьцілі, пане фэльдкурат, а цяпер нам увесь інтарэс сапсавалі!—абураўся Швэйк, калі ў канцылярыі ім паведамілі, што тым дваім ужо больш нічога ня трэба.

І сапраўды, форсу яны напусьцілі. Ехалі яны ў карахвашцы, Швэйк званіў, а фэльдкурат трымаў у руцэ пляшачку з алеем, загарнутую ў сарвэтку, і бласлаўляў ёю падарожнікаў, якія з сур'ёзным выглядам зьдзявалі шапкі. Праўда,

што іх было ня надта многа, хоць Швэйк і стараўся нарабіць сваім званком як мага болей шуму. За карахвашкай беглі падпшывальцы, адзін з іх падчапіўся ззаду да карахвашкі, а ўсе іншыя крычалі ў адзін голас:

— Гэй, ззаду, ззаду...

Швэйк званіў на ўсе застаўкі, рамізьнік сьцёбаў каня. На Вадзічкавай вуліцы карахвашку дагнала нейкая швэйцарыха, сябра хрысьціянскага таварыства сьвятой Марыі, на ўсім хаду ўзяла блаславеньне ад фэльдкурата, перахрысьцілася, потым злосна плюнула і крыкнула:

— Скачуць, як чэрці! Да сьмерці загналі!— і, задыхаўшыся, вярнулася на сваё старое месца.

Званок найбольш турбаваў рамізьнікаву шаўлюгу, у якой, мабыць, з гэтым гукам былі злучаны нейкія ўспаміны юнацтва; прынамсі яна бесьперапынку азіралася назад і часамі памыкалася пусьціцца ў скокі сярод вуліцы.

Гэта і быў той «форс», пра які казаў Швэйк.

Фэльдкурат пашоў у канцылярыю высьветліць фінансавы бок саборваньня і налічыў дзелаводу шпіталя, што ваенна-мэдыцынскае ведамства вінавата яму, фэльдкурату, блізка сто пяцьдзесят крон за сьвянцоны алей і за дарогу. Потым адбылася спрэчка на гэтую тэму паміж га-

лоўным лекарам шпіталю і фэльдкуратам. Фэльдкурат, стукаючы кулаком аб стол, адчыкрыжыў:

— Ня думайце, капітан, што саборваньне робіцца на дармаўшчыну. Як драгунскага афіцэра камандыруюць на конскі завод за рамонтам, яму-ж плоцяць камандыровачныя! Вельмі шкода, што тыя двое не дачакаліся саборваньня, а то-б я ўзяў на пяцьдзесят крон даражэй.

Швэйк чакаў фэльдкурата ўнізе, у калавурцы, з пляшачкай сьвятога алею, якая абуджала сярод салдат шчырую цікавасьць. Адзін з іх выказаў думку, што гэты алей цалком прыдатны да чышчэньня вінтовак і штыхоў. Малады салдацік з Чэхамараўскага ўзвышша, які яшчэ верыў у бога, прасіў не гаварыць гэткага і не спрачацца аб сьвятых рэчах:

— Мы павінны быць сумленнымі хрысьціянамі.

Стары ратнік паглядзеў на блазьнюка і сказаў:

— Ты думаеш, што вера захавае тваю мазгаўню ад шрапнелі? Досыць нас чмуцілі. Перад вайной прыяжджаў да нас адзін дэпутат клерыкалі і гаварыў пра царства божае на зямлі. Госпад бог ня хоча вайны і хоча, каб усе жылі ў

лагодзе, па-братэрску. А ці толькі выбухнула вайна, па ўсіх касьцёлах зачалі маліцца за перамогу нашага войска, а пра бога сталі гаварыць не раўнуючы, як пра начальніка генэральнага штабу, які кіруе ўсімі ваеннымі дзеяньнямі. Адгледзеўся я на пахаваньні ў гэтым шпіталі. А колькі паадцінаді рук ды ног. Проста вазамі возяць.

— Салдатаў хаваюць галяком,—сказаў другі,—а адзежу з мерцьвяка надзяваюць на жывога. Так на круг і йдзе.

— Пакуль мы ня выйграем вайну,—зазначыў Швэйк.

— Дзіва, што гэткае мурло выйграе,—адгукнуўся з кутка капрал.—На фронт трэба такіх, пагнаць вас на штыхі, к чорту-матары, у ваўчыныя ямы, супроць мінамётаў. Валяцца ў тыле кожны зух, а вось паміраць дык нікому ня хочацца.

— А я думаю, як гэта прыемна памерці пад штыхом!—сказаў Швэйк. — Някепска таксама атрымаць кулю ў чэрава, а найлепш, калі чалавека разрывае граната, а ён глядзіць ды думае, чаму ў яго ногі з жыватом адлятаюць некуды на ўзьвей-вецер. І так яму гэта дзіўна, што ён з

дзіва памірае раней, чымся хто ўправіцца яму растлумачыць.

Маладзенькі салдат шчыра ўздыхнуў. Яму шкода стала свайго маладога жыцьця. Навошта ён толькі радзіўся ў гэты бязглузды час? Каб яго зарэзалі, як карову ў разьніцы? І нашто гэта ўсё?

Адзін салдат, былы настаўнік, нібы прачытаўшы ягоныя думкі, зазначыў:

— Іншыя вучоныя тлумачаць вайну зьяўленьнем плям на сонцы. Ці толькі зьявіцца гэткая-такая пляма, заўсёды на зямлі адбываецца катастрофа. Забраньне Корфагену...

— Адкасьніцеся вы з сваёй вучонасьцю,—перапыніў яго капрал.—Вымецьце лепш падлогу, сёньня ваша чарга. Які нам клопат да нейкае там плямы на сонцы! Хай іх там дваццаць будзе, з іх сабе кажуха не пашыеш!

— Плямы на сонцы сапраўды маюць вялікае значэньне,—утыкнуўся ў гаворку Швэйк.—Аднаго разу зьявілася на сонцы пляма і таго самага дню мяне зьбілі ў шынку «У Банзэтаў», у Нусьлях. З таго часу перш, чымся куды-небудзь пайсьці, я гляджу ў газэце, ці не зьявілася зноў якая-небудзь пляма на сонцы. І калі зьявіцца

пляма, дык—бывайце здаровы!—нікуды я ня йду і чакаю, пакуль пройдзе час. Як яшчэ вулькан Монпэле зьнішчыў быў цэлую выспу Мартынік, адзін профэсар напісаў у «Нацыянальнай Політыцы», што даўно ўжо зварачаў увагу чытачоў на вялікую сонечную пляму. А «Нацыянальная Політыка» ў пару на выспу ня трапіла, дык яны й загрымелі.

Тымчасам фэльдкурат наткнуўся ў канцылярыі на адну даму «Таварыства дваранак па рэлігійным выхаваньні ніжэйшых чыноў», старую брыдкую ведзьму, якая ад самага раньня цягалася па шпіталі ды раздавала направа й налева абразкі сьвятыя. Хворыя і параненыя салдаты кідалі іх у плявацельніцы.

Пад час свайго абходу яна раздражняла ўсіх сваёй дурной гаворкай пра тое, што трэба шчыра жалкаваць аб сваіх грахох і паправіцца, каб пасьля сьмерці міласэрны бог дараваў ім вечнае спасеньне.

Яна была бледая, калі гутарыла з фэльдкуратам.

— Гэтая вайна, замест таго, каб па-шляхетнаму выхоўваць салдатаў, робіць з іх зьвяроў.

Унізе, у палаце, гэтыя зладзеі наказалі ёй язык і сказалі ёй, што яна «хара» і «асьліца валаамава».

— Сапраўды, гэта нешта страшэннае, пане фэльдкурат. Народ так разбэсьціўся...

І яна завяла гаворку пра тое, як яна ўяўляе сабе рэлігійнае выхаваньне салдата. Толькі тады салдат адважна змагаецца за свайго імпэратара, калі ён верыць у бога і повен рэлігійных пачуцьцёў. Толькі тады ён не баіцца сьмерці, бо ведае, што яго чакае рай.

Гэтая лапатуха яшчэ ці мала несла розную лухту, і відаць было, што яна мае замер доўга яшчэ не пакідаць фэльдкурата. Фэльдкурат без асаблівае далікатнасьці адвітаўся.

— Едзем дамоў, Швэйк,—крыкнуў ён у калавурку.

Едучы назад, яны ўжо ніякага форсу не задавалі.

— У наступны раз хай едзе саборваць хтохоця,—сказаў фэльдкурат.—Чалавеку прыходзіцца таргавацца за кожную душу, якую ён хоча ратаваць. Бюрократы! Паскуднікі!

Угледзеўшы ў Швэйка ў руках пляшачку з «сьвянцоным алеем», ён насупіўся:

— Лепей за ўсё, Швэйк, памажце гэтым алеем боты і сабе, і мне.

— Я яшчэ паспрабую памазаць гэтым замок у дзьвярох, а то ён дужа рыпіць, калі вы ўначы прыходзіце дахаты.

Так скончылася, не пачынаўшыся, саборваньне.

# ЗЬМЕСТ

